
Маладыя таленты→3

# Ніва


Хрысціна Саўко→8

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

№ 24 (2979) Год LVIII | Беласток, 16 чэрвеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Мікола Гайдук як журналіст „Нівы”

**Цягам апошняй суботы і нядзелі, 8 і 9 чэрвеня, у Бельску-Падляшскім і Міхалове праходзілі ўрачыстасці ў гонар 15-й гадавіны смерці Міколы Гайдука — асобы, якая сваімі памкненнямі і дасягненнямі выбудоўвала нашую беларускую спеласць і адказнасць за свой лёс. Вашай увазе прапануем артыкул пра Міколу Гайдука як рэдактара „Нівы”. У наступным нумары тыднёвіка надрукуем рэпартаж аб гэтай так важнай падзеі.**


Фота Міры ЛУКШЫ

Ля магілы Міколы і Лідзіі Гайдукоў на праваслаўных могілках на Выгодзе: (злева) Гражына Харытанюк-Міхей, Яўген Вапа, Валянціна Швед, Юрка Хмялеўскі, Алег Латышонак, Зінаіда Садаўнічая (сястра), Іаанна Пільціцкая (дачка), Мікалай Садаўнічы, Лена Глагоўская, Віктар Швед

Жыццёва-інтэлектуальна-асветніцкі шлях Міколы Гайдука немагчыма разглядаць без таго суб’екта — сімвала беларускасці на Беласточчыне — якім з’яўляецца тыднёвік „Ніва”. Менавіта ў ім і праз друкаваную там сваю ўсебаковую творчасць збываліся мары аўтара, каб усё, што нашае, запісаць, растыражыраваць і ўпісаць у бязмежную беларускую гісторыю і культуру. А журналісцкі свет для Міколы Гайдука ў нашым тыднёвіку адкрыўся роўна 55 гадоў таму назад. 1 жніўня 1958 г. Мікола Гайдук падаў афіцыйную заяву на працу ў рэдакцыі, хаця ягоныя матэрыялы друкаваліся ўжо ў 1957 г. і ягам 1958 г. Першыя артыкулы і вызначылі зацікаўленні маладога аўтара з відавочнай навуковай і літаратурнай схільнасцю. Людвік Кандратовіч, Драгічын, Супрасль, Яўфім Карскі, Адам Міцкевіч, Пятрусь Макаль, Аляксей Карпюк, народныя мастакі і выстаўкі — названыя тэмы паказвалі, у які бок будзе накіроўвацца і развівацца ягоная журналісцкая і даследчыцкая творчасць. Але вяртаемся да жніўня 1958 г. — у рэдакцыйным архіве, на пажоўклай картцы паперы стаіць, зробленая Георгіем Валкавыцкім уручную, чырвоным алоўкам занатоўка: прыняць з днём 4 жніўня 1958 года з зарплатай 750 зл. як штат плюс 750 зл. як ганарар за тэксты. У афіцыйнай ужо дамове сказана, што Мікола Гайдук прымаецца на працу ў якасці журналіста культурнага аддзялення, які абавязаны напісаць штомесяц 2-3 артыкулы і 10 інфармацый, весці карэспандэнцыю з чытачамі ў справах культуры і літаратуры ды ацэньваць надасланыя творы. У час прыёму на працу жыў ён у Беластоку па адрасе вуліца Жэлязна, 13, кватэра 1. Аднак у першым ніўскім перыядзе Мікола Гайдук па асабістых і навуковых прычынах не змог поўнасцю прысвяціць сябе журналісцкай працы. Па ўласнай просьбе бярэ ў рэдакцыі бясплатны водпуск з 16 верасня да 1 снежня 1958 г. з мэтай закончыць вучобу ў мінскім універсітэце. Водпуск прадаўжае да 1 лютага 1959 г. Новая дамова на працу, падпісаная 11 сакавіка 1959 г., прызначае яго на пасаду журналіста-публіцыста, які працуе з пазарэдакцыйным асяроддзем і карэспандэнтамі, са стаўкай 800 зл. брута штат плюс 800 зл. брута ганарары.

1 чэрвеня 1959 г. Мікола Гайдук звяртаецца з просьбай разарваць дамову з рэдакцыяй з днём 1 жніўня 1959 г. з прычыны выхаду на другую працу. Такім чынам першы ніўскі рэдакцыйны перыяд Міколы Гайдука працягваўся з 4 жніўня 1958 да 31 ліпеня 1959 г.

Цягам наступных 12 гадоў (1959-1971) на першым месцы ў жыцці Міколы Гайдука стаіць настаўніцка-асветніцкая дзейнасць, звязаная з Бельскам-Падляшскім. Да 1 верасня 1965 г. працаваў ён, між іншым, настаўнікам і метадыстам расейскай мовы ў Бельску і Беластоку ды выкладчыкам беластоцкай Настаўніцкай студыі. З 1965 па 1971 г. працуе дырэктарам Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў тым жа Бельску. Перыяд настаўніцтва не абазначае аднак, што Мікола Раманавіч не друкуецца на старонках „Нівы”. Ва ўзгаданым перыядзе адкрываецца чарговае яго захапленне нашай духоўнай спадчынай, менавіта свет легенд, казак і народных песень зачароўваюць нястомнага рупліўца. Народныя паданні Бельшчыны і Гайнаўшчыны рэгулярна друкуюцца ў тыднёвіку. У 1960 г. ён становіцца таксама кансультантам фільма Канстанціна Гордана „Беларускае вяселле”. У бельскім жыццёвым перыядзе спадарства Мікола і Лідзія Гайдукі ствараюць асноўу навучання — падручнікі па беларускай мове, якія, калі нават гартаць іх сёння, маюць вельмі шмат цікавых як на тыя часы літаратурных тэкстаў і граматычных практыкаванняў. На старонках „Нівы” ва ўзгаданым перыядзе з’яўляецца і Мікола Гайдук у выглядзе літаратурнага крытыка і рэцэнзента „белавежскіх” выданняў. Што цікавае, займаецца ён таксама перакладамі польскай паэзіі. Між іншым, як успамінаў мне ў размове знакаміты польскамоўны паэт, бяльшчанін Юрка Плютовіч, гэта Мікола Гайдук, прачытаўшы ягоныя вершы ў польскай прэсе, першым пераклаў іх на беларускую мову і надрукаваў у „Ніве”. Было гэта ў 1968 г., у 48 нумары. Сам ён таксама вельмі ўдала ўпісваецца ў беларускую літаратуру як прадстаўнік гістарычнага жанру, друкуючы свае мастацкія творы на старонках газеты. Безупынна таксама друкуюцца гістарычныя матэрыялы па гісторыі Беларусі — у рамках цыкла „Гутаркі па роднай гісторыі”. З перспектывы часу, гартаючы ў „Ніве” артыкулы з вандровак па Беласточчыне — можна смела Міколу Гайдука назваць бацькам падляшскага беларускага краязнаўства, для якога спісанне гісторыі кожнай вёсачкі ці мястэчка становіцца выклікам і абавязкам. Рэдактарскія здольнасці дазваляюць яму стаць шматразовым рэдактарам „Беларускіх календароў”. Паглядзеўшы на аграмаднасць паднятых тэм і цяжар прынятых на свае плечы абавязкаў, на вусны прыходзіць натуральнае пытанне: якім коштам для здароўя, сям’і прыходзілася здзяйсняць такую велізарную працу? Калі ён адпачываў, кантактаваўся з блізкімі? Як важнай яму, аднаму з нешматлікіх нашых інтэлектуалаў, была беларуская ідэя, што трэба было так нямногім займацца так многімі справамі? Спяшаца, каб паспець выканаць працу цэлых інстытутаў ці асяродкаў культуры. Беларускі лёс ад Бобры да Буга, ад Драгічына да Смаленска.

У 1971 годзе, па 1988 г., распачынаецца другі, гэтым разам 17-гадовы перыяд ніўскай, рэдакцыйнай працы Міколы Гайдука. 5 чэрвеня 1971 г. падаў ён заяву на працу ў газеце, а 6 жніўня гэтага ж года прымаецца з датай 1 жніўня на пасаду публіцыста са стаўкай 1400 злотых. З 1 студзеня 1979 г. атрымаў званне і пасаду старшага публіцыста з дабаўкай 250 зл. У 1984 г. распачаў ён афіцыйна выконваць абавязкі сакратара рэдакцыі, заступаючы Аду Чачугу. Цікавінкай, звязанай з замяшчэннем з’яўляецца факт, што Георгію Валкавыцкаму трэба было на гэта атрымаць згоду ваяводскага камітэта партыі, у прыватнасці сакратара Мікалая Козака, таксама радавітага белавежца і роднага брата святой памяці беларускай пісьменніцы Алены Анішэўскай. Пераносна і літаральна ніўскія „белавежцы” ў белавежца прасілі дазволу.

У гэтым перыядзе працы Мікола Гайдук на старонках „Нівы” публікуе, між іншым, новыя рэпарцёрскія цыклы, якія заўважаюцца не толькі чытачамі, але і ўзнагароджваюцца выдавецкім канцэрнам РСВ-Праса-Рух. У 1980 г. — „Мінскія сустрэчы”, у 1985 г. — „Краязнаўчы слоўнік”, у 1987 г. — „Шляхам гадоў”. Руплівасць, дакладнасць, надзея на адраджэнне беларускасці ў 1980-х гадах тут, у нас на Беласточчыне, і ў Беларусі даюць яму той зарад аптымізму, які дазваляе працаваць, нягледзячы на ненайлепшае здароўе. У чэрвені 1989 г. едзе ў Вільню на ўстаноўчы з’езд БНФ „Адраджэнне”, які энтузіястычна апісаў на старонках „Нівы”.

З захаванай дакументацыі вынікае, што на шпітальнае лячэнне трапляў ён у 1967, 1976, 1979, 1980, 1987 гг. Пасля апошняй шпітальнай пабыўкі з сакавіка 1988 г. да канца жніўня бярэ паўгадовы водпуск. Аднак пасля вяртання няма ўжо здароўя да так інтэнсіўнай працы. 14 снежня 1988 г. Мікола Гайдук, намеснік галоўнага рэдактара „Нівы”, выходзіць на трывалую інвалідную рэнту 2-й групы. Але не абазначае гэта, што ягонае журналісцкае пяро выпісалася. Распачынаецца перыяд супрацоўніцтва і з іншымі рэдакцыямі і новымі выклікамі на грамадска-рэлігійнай дзялянцы.

**Яўген ВАПА**





# Слава Украіне!

Некалькі гадоў таму ехаў я цягніком па Украіне. На адным з прыпынкаў у маё купэ зайшлі тры маладыя вайскоўцы. Па іх манерах, размовах і перароблenай у гусарскі стыль вайсковай форме адразу было бачна, што гэтыя хлопцы едуць на дэмбель. Заняўшы свае месцы, салдаты дасталі гарэлку і закуску, ды прапанавалі і мне падняць кілішак за заканчэнне іх службы. Даведаўшыся, што я таксама некалі служыў, юнакі прызналі мяне напалову сваім. А як зразумелі, што я беларус, то ўвогуле пачалі называць братам.

Яны пыталіся, а я распавядаў пра сваю службу, якая праходзіла ў савецкім войску. Збольшага ім падабаліся мае аповеды. Толькі адна рэч іх бянтэжыла, пра якую, не вытрымаўшы, спытаўся адзін з іх:

— Цікавая ў вас служба была, — пачаў ён крыху здалёк. — Вось толькі адного не магу зразумець, як вы ўжываліся з маскалямі?

— Ужываліся, — адказваю. — У нас, з большага, рота складалася з беларусаў, рускіх ды ўкраінцаў. Але ставіліся адзін да другога цярпіма.

— Мы б так не змаглі, — напалову жартам і напалову сур'ёзна засмяяліся вайскоўцы. — Іх Расейская Імперыя (такой назве Расійскай Федэрацыі яны аддавалі перавагу) і зараз не супакойваецца ды марыць забраць нашу свабоду і нашу зямлю. Дарэчы, і вашу таксама. Толькі нічога ў іх не атрымаецца. Не ведаю як там сітуацыя з вамі, беларусамі, а ў нас, украінцаў, нарэшце ёсць рэгулярнае войска, якое гэтага не дапусціць.

— Войска ёсць ва ўсіх, — усміхнуўся я. — Але дасць галоўнакамандуючы загад сядзець ціха, то будзе і войска маўчаць. А палітыкі ў гэты час падпішуць усе аб'ядлівыя дакументы.

— У нас такога не будзе, — упэўнена абверглі мяне жаўнеры. — Не забывайце, што ва ўкраінскае войска прызываюцца і такія ўкраінцы як мы. І зброю нам даюць, як усім. І калі дойдзе справа да знішчэння нашай незалежнасці, то мы маўчаць не будзем. Бо прысягаем не нейкаму начальніку, а Украіне.

Пасля таго, як патрыёты выйшлі з цягніка, і са словамі „Слава Украіне!" звалілася прама ў абдымкі сваіх родных, я яшчэ доўга ехаў і разважаў пра пачутае. І прыйшоў да высновы, што ў іх словах была моцная логіка. І што ўкраінскае войска сапраўды ёсць тым нешматлікім інстытутам Украіны, які, у адрозненні ад парламента, можа рэальна заступіцца за сваю Радзіму. „Слава Украіне!" — падумаў я.

Толькі хіба не я адзін прыйшоў да такіх высноў пра патрыятычнасць цяперашняга ўкраінскага войска. Зразумеў гэта я пару дзён таму, калі залез у інтэрнэт і прачытаў, што яго вырашана знішчыць. Знішчэнне ўкраінскай арміі будзе адбывацца пад выглядам адмовы ад цяперашняга прызыўнога войска і пераходу на прафесійнае. Гэтай восенню будзе апошні прызыў, калі такім патрыятычным хлопцам як тым, якіх я сустрэў у цягніку, добраахвотна дадуць зброю. Ды яшчэ навучаць ёю карыстацца і прымусяць у іх прысягу бараніць сваю зямлю.

Навошта ж незалежнай Украіне знішчаць такі моцны інстытут украінскай дзяржаўнасці як сённяшняе войска? Войска, якое ў кожных умовах будзе бараніць незалежнасць! Ды і лішнія грошы, якія будзе патрабаваць стварэнне новага войска, на Украіну, здаецца, не зваліліся з неба. Можа так адкуль зваліліся, але з неба, пасля часоў нябеснай манны, акрамя дажджу ды снегу ўжо некалькі тысячагоддзяў нічога не падае. І адбываюцца гэтыя падзеі на фоне новага статусу Украіны ў Мытным саюзе, які, як некалі тыя ўкраінскія вайскоўцы, многія з большай ахвотай называюць Расейскай Імперыяй.

Ну а далей, хіба, трэба і на Украіне чакаць большай актыўнасці такіх працэсаў, якія адбываюцца ў Беларусі. І не здзіўлюся, калі ў наступным інфармацыйным блоку з Украіны мы прачытаем пра тое, што ўкраінцы аддаюць перавагу школам з рускай мовай навучання. Або папаўзе інфармацыя, якую мы зараз чытаем пра Гародню. І высветліцца, што недзе ў інстытуце заходнеўкраінскага горада вырашылі ліквідаваць факультэт гісторыі. Каб потым, калі з прафесійнага войска зноў пачне ствараецца прызыўное, ужо не патрапіліся такія салдаты, якія прысягу служыць Радзіме атаясамляюць з Украінай.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Кошты чалавечай ганарлівасці



Ганарлівасць расійскіх нуварышоў, якія жаруць ікру ўжо нават не лыжкамі, а апалонікамі, дараўноўвае імперскай фанабэрыстасці самой Расіі. Нават калі Беларусь не з'яўляецца тазікам, напоўненым перлістымі ікрынкамі, усё ж не без падстаў тыкае ў яго свой расійскі відэльчык. Тлустых кусаў ёсць даволі шмат, толькі што большасць беларусаў і так кожны дзень хлеба не вельмі змястоўны шчолак. Ну, але калі запрашаюць у якасці госця прагнага суседа, цяжка каб усе маглі сытна наесціся. Гэта зусім іншая справа, калі госць парушае правілы гасціннасці. Напхаў ужо бруха беларускімі нафта- і трубаправодамі, а яму ўсё яшчэ замала. І, мабыць, атрымае больш. Ці празмерная зычлівасць гаспадароў не перашкаджае здароваму сэнсу? Ці непрыстойнасць госця, які злоўжывае іх цярплівасцю, не з'яўляецца візітам ворага? Адказу на гэтае пытанне кожны няхай шукае ў анекдоце, які Плутарх прыводзіць у сваіх «Апафегмах цароў і палкаводцаў»: калі кароль Філіп Македонскі, бацька Аляксандра Вялікага, абвешчаны наследнікамі Вялікім, прыйшоў са сваімі войскамі пад мяцежную Спарту, звярнуўся з лістом да яе грамадзян, у якім ён спытаўся, ці хочуць яны, каб ён да іх увайшоў у якасці сябра ці ворага. Спартанцы адказалі «ані як той, ані як той».

Беларускім грамадзянам, аднак, не было дадзена параўноўваць сябе з палітычнай мудрасцю старажытных спартанцаў. І гэта па той простай прычыне, што прэзідэнт Лукашэнка не спытаўся, што ім трэба, калі вырашаў аб размяшчэнні ў Беларусі аэрапартоў для расійскіх баявых знішчальнікаў. Вядома, па ўмовах экстэрытарыяльнасці, на самай справе дэ-факта паддадзенага ўладзе замежнай дзяржавы. Варта нагадаць, што Беларусь мае запісаны ў Канстытуцыі статус нейтральнай краіны, так што прысутнасць на яе тэрыторыі войскаў іншай дзяржавы супярэчыць не толькі нормам міжнароднага права, але і з'яўляецца пагрозай свайму суверэнітэту. Маглі не ведаць аб гэтым сярэднія спажыўцы «шчолаку», але гэта не выпала з-пад увагі беларускай апазіцыі. На жаль, яе крытычны голас у гэтым пытанні патануў у бразгатанні сталёвых прыбораў і прагным чмяканні. Вядома, тых, што бяседуюць у вярхах стала. Беларуская стала.

Ганарлівасць гэта рыса рэзка чалавечая. Драматычная не таму, што закранае народы, усе сацыяльныя пласты, інтэлектуальныя і палітычныя эліты, дзяржаўных служачых, сялян, рабочых, і, адным словам, кожнага чалавека, а таму, што немагчыма цалкам выкараніць яе. Ні з аднаго якога-небудзь народа або любога чалавека. Яе трэба пастаянна душыць, рваць, палоць, каб зусім не завалодала розумам. Хопіць момант недагляду, а ўжо прарастае новым пабегам: маніяй велічы, ганарыстасці, эгаізму, невуцтва, духоўнай ляноты. Яны заглушаюць самакрытыку, адбіраюць святло пакоры, гэтак неабходнай чалавеку, які змагаецца з неабсяжнасцю ўласнага невуцтва. Выходзяць на першы план у той час самыя прымітыўныя эмоцыі. Квітнее пачуццё інтэлектуальнай пераваргі, якая ідзе рука аб руку з сафістыкай і самаўпэўненасцю ва ўсласных рацыях. Вось чалавечая ганарлівасць ва ўсёй красе. Нелагічная, ірацыянальная, распусная. Бярэ перавагу над розумамі мудрых і дурных, вялікіх і малых.

Малымі і дурнымі розумамі паказаліся валадары Віцебска, якія на вестку аб прыбыцці прэзідэнта Лукашэнкі, з беларускай карты выразалі вёску Паўловічы. Гэтая бедная і моцна заняпалая вёска мела няшчасце ляжаць на маршруце прэзідэнцкага картэжу. І пры ўсім гэтым, як вядома, прэзідэнт ненавідзіць беспарадак, бруд і... крывыя платы, дык вёсачку на працягу аднаго дня змялі з твару зямлі. І так напыхлівасць Аляксандра Лукашэнкі была цалкам задаволена напыхлівасцю кіраўнікоў віцебскай вертыкалі. У Віцебску ўбачыў ён прыгожа размаляваныя дамы і платы, і гладка асфальтаваныя вуліцы. Паўловіч не было там ужо, але ж самы важны — парадак!

Ганарлівасць балюча кранула дэпутатку ад ПіС Крыстыну Паўловіч. Ці хто чуў пра яе некалькі месяцаў назад? Па дзіўным супадзенні, у той жа час, калі яна стала актыўнай у грамадскім жыцці разам са сваім прафесарскім званнем і базарным ротам вулічнай гандляркі, у Беларусі разбурылі вёску Паўловічы. Прызнаюся, што гэтыя дзве падзеі, нягледзячы на паралелі, не маюць ніякай лагічнай сувязі адна з адной. Хаця... Тым не менш, спалучае іх тонкая нітка: Крыстына Паўловіч не мае нічога агульнага з гэтымі Паўловічамі.

Але і яе вымяце з публічнага жыцця напыхлівасць. Тая самая ГАНАРЛІВАСЦЬ!

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Нагода для святкавання



Таксама ў Беластоку 4 чэрвеня адзначалі чарговы юбілей першых часткова свабодных выбараў у Сейм і Сенат у 1989 годзе. У сувязі з гэтым у той жа аўторкавы поўдзень (калі большая частка жыхароў павінна была быць на працы) прэзідэнт сталіцы Падляшша Тадэвуш Трускаляскі на плошчы перад гарадской ратушай падзяліў — у асноўным сярод школьных груп — торт вагой трыццаць кілаграмаў. Прамаўляў:

— Польшча здабыла незалежнасць, суверэнітэт. Палякі аднавілі свабоду ўпершыню пры дапамозе бюлетэняў, а не бою. Абышлося без кровапраліцця. Гэта была сапраўдная вясна народаў у Еўропе. Такім чынам, сёння мы хочам радавацца, хочам святкаваць і дзякаваць практычна ўсім, хто тады прыняў удзел у выбарах, дзякуючы адзін аднаму, і дзякаваць, што тае свабоды, якую мы тады здабылі, не змарнавалі.

Прыслухоўваючыся да слоў прэзідэнта Трускаляскага на прыратушнай плошчы і, памятаючы, што гэты дзень гэта таксама ўстаноўлены Сеймам у красавіку Дзень свабоды і правоў чалавека, я думкамі вярнуўся да ўдзелу ў гэтых выбарах 24 гадоў таму беларусаў. Нагадаліся мне сказы, якія напісалі нашы гісторыкі Яўген Міраловіч і Алег Латышонак: «Вынік выбараў, хаця не даў беларусам месцаў у сейме або ў сенаце, імі быў палічаны ўмераным поспехам. Упершыню пасля вайны беларускі рух паўстаў як самастойная палітычная сіла».

Тады ад імя Беларускага клуба (на чале якога стаяў Юры Туронак, і які быў заснаваны 11 лютага 1989 г.) кандыдатамі былі: у Сейм — Яўген Міраловіч, а ў Сенат — Сакрат Яновіч. Сакрат Яновіч атрымаў падтрымку аж 22,5 тысяч выбаршчыкаў, а Яўген Міраловіч — больш за 14 тысяч. Хаця кандыдаты Беларускага клуба не сталі членамі парламента, Беларускі выбарчы камітэт у выніку выбараў стаў трэцяй палітычнай сілай у рэгіёне. Сакрат Яновіч пасля выбараў сказаў:

— Мы ішлі, каб заіснаваць. Вынік быў задавальняючай неспадзеўкай. Больш таго, нарадзілася думка, што проста 4 чэрвеня 1989 года нарадзіўся беларускі палітычны рух.

Незадоўга да чэрвеньскіх выбараў 1989 г. на старонках «Нівы» з'явілася інтэрв'ю, якое ў кандыдата ў сенатары ўзяў Ян Максімюк. Сакрат Яновіч пераконваў:

— Справа ў тым, што за ўвесь пасляваенны час беларусы не мелі магчымасці адыграць нейкую самастойную палітычную ролю. Заўсёды трактавалі іх інструментальна як нейкі дадатак да дзяржаўнай палітыкі. Беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы не мае традыцыі палітычнага жыцця. На самай справе, сёлета першы раз узнік шанц прыняць самастойны ўдзел у выбарах. Ці здолеем гэтым шанцам пакарыстацца — цяжка сказаць. Баюся, што для нас усё сталася занадта неспадзявана, раптоўна. Практычна ж не было часу, каб да гэтых выбараў падрыхтавацца належным чынам (...). Калі б мелі магчымасць рэальна ўплываць на гаспадарчую сітуацыю, то і нацыянальную сітуацыю мелі б лепшую. Заўважце, што большасць нацыянальна свядомых беларусаў на Беласточчыне выводзіцца з сем'яў багатых гаспадароў ці рамеснікаў, коратка кажучы, сем'яў заможных. Горш з нацыянальнай свядомасцю ў асяроддзях рабочых, бо ж лёс іхняга матэрыяльнага забеспячэння залежыць не ад іх саміх, а ад майстра.

І хоць гэтыя выбары і наступныя для незалежнага ад іншых палітычных сіл беларускага руху не былі пераможнымі ў літаральным сэнсе, а народжаная пасля партыя, якая вырасла з Беларускага клуба — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне — пасля больш дзесяці гадоў працы было спыненае, несумненна, гэтая дата з'яўляецца беларусам падставай для святкавання. Якраз у той час, за некалькі месяцаў да выбараў, незалежнае беларускае асяроддзе сфармулявала восем пастулатаў, якія чатыры гады таму нагадаў у «Часопісе» Славамір Іванюк. Першы з іх гучаў: «Унясенне асобнага запісу ў Канстытуцыю ПНР аб існаванні нацыянальных меншасцей і іх правоў». Праз 24 гады ад часткова свабодных выбараў няма ПНР, няма ПАРП, а нацыянальныя меншасці ў Польскай Рэчы Паспалітай, у тым ліку беларуская, маюць гарантаваныя канстытуцыйныя і пазаканстытуцыйныя правы і яны знаходзяцца пад абаронай нормаў міжнароднага права, абавязваючага ў нашай краіне.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Паказалі вакальныя таленты

**Каля 400 дзетак і моладзі выступіла 29 мая ў Бельскім доме культуры з сучаснымі беларускімі песнямі, апрацаванымі народнымі творамі і неапрацаваным фальклорам у час цэнтральных элімінацый юбілейнага, саракавога, выпуску конкурсу «Беларуская песня» для дашкольнікаў, вучняў падставовых школ і гімназій. Публіку ў час галоўнага адбору ў Бельску-Падляшскім састаўлялі перш за ўсё дзеткі, моладзь, іх апекуны і сямейнікі.**

Самым адметным выканаўцам быў калектыў «Астэрыя» з Дома праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім (заняў другое месца сярод гімназістаў), якім апякуецца Анна Фіта. Бельскія белгімназісткі на высокім мастацкім узроўні запрэзентаваліся апошнімі з рок-песняй «Беларусь» і з-за характару прэзентаванай рок-музыкі выклікалі дыскусію.

— Твор «Беларусь» мы падабралі самі. Нашая апякунка Анна Фіта спачатку не хацела згадзіцца на рок-песню. Затое айцец Георгій Багацэвіч, апякун нашага праваслаўнага дома сказаў, што можам выступіць і з моцнай музыкай, — заявіла Аляксандра Варшыцкая з калектыву «Астэрыя». — Мы вельмі хацелі заспяваць пра Беларусь і выступіць з моцнай музыкай, якую любіць моладзь.

Аляксандра Варшыцкая выступіла яшчэ ў тэрцэце з сястрой Мартай Варшыцкай і Кацярынай Хмур пад наглядам спадарыні Анны Фіты (тэрцэт таксама заняў другое месца).

Аднак конкурс пачаўся з выступаў дашкольнікаў. Вельмі ўдала запрэзентаваўся беларускі калектыў «Лянок» з Непублічнага прадшколля № 1 імя св. дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім, якім апякуюцца Іаанна Хількевіч і Марта Зінкевіч (заняў другое месца ў супольнай катэгорыі дашкольнікаў і ўсіх вучняў падставовых школ).

— Раней здавалася, што няма роўных Самаўрадаваму прадшколлю № 14 у Беластоку (трыо «Пчолкі» з гэтага садка заняло І месцы ў катэгорыі класаў 0-ІІІ), якое паказвала вельмі высокі ўзровень спеву, а цяпер так удала запрэзентавалася бельскае прадшколле дзіцяткі Гаўрыіла, — звярнуў увагу старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі і заадно віцэ-старшыня Таварыства беларускай культуры, якое было галоўным арганізатарам мерапрыемства для школьнікаў.

Таксама цікава і з вялікай дзіцячай энергіяй выступілі дзеткі з чатырох публічных самаўрадавых садкоў з Гайнаўкі. Дашкольнікі змагаліся ў адной катэгорыі з вучнямі першых трох класаў падставовых школ, а ў выпадку калектываў, разам з усімі вучнямі падставовых школ. Ужо традыцыйна, вельмі добра запрэзентаваліся вучні, што займаюцца ў Студыі эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры, якімі апякуецца Марта Грэдаль-Іванюк (у мінулым выступала ў гайнаўскай «Знічцы») і здабылі ў розных катэгорыях пяць, на агульны лік трынаццаці, першых месцаў. Нават вучаніца Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія Марыя Савіцкая пастаянна прыязджае з Беластока на рэпетыцыі ў ГДК і выступае разам з гайнаўскімі дзяўчаткамі. У час конкурсу ўдала заспявала песню «Казкі».

— Мне раней вельмі спадабаўся выступ калектыву Студыі эстраднай песні з Гайнаўкі і я вельмі хацела спяваць разам з гайнаўскімі вучнямі, — заявіла пасля выступу Марыя Савіцкая.

— Пані Марта Грэдаль-Іванюк рыхтуе дзетак да выступаў на вельмі высокім узроўні. Перамагаюць яны не толькі ў беларускамоўных конкурсах, але таксама ў час іншых агульнапольскіх спаборніцтваў і мы хацелі, каб нашая дачка займалася пад наглядам гэтай пані. Раз у тыдзень прывозім нашую Марысю з Беластока ў Гайнаўку на рэпетыцыі, а калі трэба выступіць, прыязджаем і другі раз. Рады, што дачка выступае ў так добрым калектыве, — сказала Анна Савіцкая.

На вельмі высокім мастацкім узроўні выступіў калектыў «Малое ГДК» (заняў першае месца ў катэгорыі класаў 0-VI), у якім спявала Марыя Савіцкая. Ад імя Студыі эстраднай песні ГДК таксама вельмі добра заспявалі сола вучаніцы падставовых гайнаўскіх школ (Софія Філіпюк — першае месца ў катэгорыі класаў 0-ІІІ і Іза Карчэўская — першае месца ў кат. кл. IV-VI) і ў дуэце (Іза Карчэўская і Кацярына Дружба — першае месца ў кат. кл. IV-VI). У катэгорыі гімназістаў саліcтка Эвеліна Даковіч з ГДК заняла першае раўнапраўнае месца.



На вельмі высокім мастацкім узроўні выступіў калектыў «Малое ГДК» і заняў першае месца ў катэгорыі класаў 0-VI

— Штораз больш складана перамагчы ў конкурсе, бо дзеткі і моладзь спяваюць вельмі цудоўна, — гаварыла Вера Масайла, якая займаецца з дзеткамі ў ГДК. На конкурс яна прывезла Еву Іванюк з Гайнаўкі.

У агульным, сярод калектываў, найбольшых поспехаў дабіліся гурты з бельскай «тройкі». Ад імя Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы цікава заспявалі сучасныя беларускія творы дзеткі з гурту «Вяночак» (ІІ раўнапраўнае месца ў кат. кл. 0-VI) і белгімназісты з калектыву «Вянок» (раўнапраўнае І месца сярод калектываў), якімі апякуецца настаўніца Іаанна Хількевіч. З неапрацаваным фальклорам цікава запрэзентаваліся дзве групы «Жэўжыкаў» (старэйшая група заняла ІІ месца), якіх падрыхтавала да конкурсу Анна Фіёнік. Іншая настаўніца бельскай «тройкі» Анна Вярцінская падрыхтавала да выступаў з сучаснымі песнямі калектывы «Малая вясёлка» і «Капрыс» (заняў першае раўнапраўнае месца сярод гімназістаў), якія займальна запрэзентаваліся на сцэне.

— Наш «Капрыс» выступае ў новым складзе, бо мы раней у «Вясёлцы» спявалі. Любім спяваць і таму цікава нам сёння выступіць, — сказалі Юліянна Данільчук, Наталля Шумалюк і Ніка Юрчук з бельскай «тройкі», якія пасля па-майстэрску выступілі з песняй «Лявоніха» і элементамі аднайменнага танца.

— Цікава выступіць перад вялікай публікай. Мы будзем спяваць прыгожую песню «Полька беларуская», — гаварылі Ніколя Вярцінская і Оля Кудзюк з «Малой вясёлкі».

— Выступаючыя калектывы прэзентуюць высокі мастацкі ўзровень, цікавы рэпертуар і наогул усе добра падрыхтаваныя да мастацкага спеву. Музычныя інструктары гавораць, што нашым калектывам прэзентацыя з беларускімі песнямі адзін раз у год гэта замала. Яны ж займаюцца са сваімі апекунамі на працягу цэлага навучальнага года. Добра было б, каб агляды беларускай песні былі арганізаваны часцей, ужо без конкурсных спаборніцтваў, — сказала настаўніца Анна Вярцінская з «тройкі».

З Комплексу школ імя Адама Міцкевіча ў Бельску-Падляшскім выступіў вакальны калектыў пад кірункам Аліны Негярэвіч і таксама заняў першае месца сярод гімназістаў. Ад імя Бельскага дома культуры запрэзентаваўся квартэт Тэатральнага калектыву «Антракт» (заняў другое месца ў кат. кл. IV-VI), з якім займаецца Альжбета Фіёнік. Вучні «тройкі» заспявалі песню з вясельнага рэпертуару «Ой хто, хто», якую запісалі ад Ніны Такаюк з Мікуліч.



Калектыў «Капрыс» з бельскай «тройкі» вельмі ўдала запрэзентаваўся на сцэне і заняў першае раўнапраўнае месца сярод гімназістаў

— Мы выступаем са сваімі песнямі і яны нам падабаюцца, — сказалі Максім Фіёнік, Дар’я Гліва і Аляксандра Зінкевіч з «Антракта». Цікава выступіў квартэт "Заранка" Культурнага аб’яднання «Terra Incognita» з Крынак, які падрыхтавалі Іаанна Чабан і Галена Пухальская. На сцэне дома культуры дастойна і з цікавым рэпертуарам запрэзентаваліся таксама вучні падставовых школ і гімназій з Дубін, Арэшкава, Ягуштова, Орлі, Гарадка, Сабалева, юныя самадзейнікі з Вясковага дома культуры ў Рыбалах (дуэт з Рыбалаў Магдаліна Андраюк і Паўліна Баніфацюк заняў першае месца ў кат. кл. 0-ІІІ), Гміннага асяродка культуры ў Міхалове, Гарадскога асяродка культуры ў Кляшчэлях і Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных.

— Нам цікава выступаць з беларускімі песнямі. Нашыя вучні прэзентуюцца з беларускай дэкламацыяй. Палова вучняў нашага трэцяга класа гімназіі збіраецца ісці вучыцца ў Бельскі белліцэй, — заявіла Магда Шайкоўская з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Орлі. З арлянскай школы выступілі, між іншым, дзве групы калектыву «Без энду» і гурт «1/3».

— Я вельмі люблю выступаць па-беларуску. Сёлета я заваявала першае месца ў конкурсе «Роднае слова». Цяпер выступаю сола і ў нашым хоры "Камертон" (І месца сярод хароў у кат. ад дашкольнікаў да вучняў трэціх класаў гімназіі), — сказала гімназістка Магдалена Маліш з Комплексу школ у Ягуштове (І раўнапраўнае месца сола), якую падрыхтаваў выдатны акардэаніст Веслаў Далінскі.

— Мы заснавалі новы калектыў «Вясёлыя ноткі» і рашыліся паспрабаваць сіл у конкурсе, — заявіла настаўніца музыкі з Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве Марта Вэршка.

Сола ўдала выступілі дзеткі з Пачатковай школы № 4 у Беластоку (Софія Конюх заняла І месца ў кат. IV-VI). Ад імя Непублічнай пачатковай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку выступілі салісты і калектыў «Orthpower», з якім ад красавіка займаецца Ала Каменская. Настаўніца беларускай мовы з непублічнай беластоцкай школы Іаанна Марко дадала, што іх дзеткі любяць спяваць і выступаць у час конкурсаў і таму так ахвотна прыехалі ў Бельск выступіць.

— Наглядаецца рост колькасці ўдзельнікаў конкурсу «Беларуская песня» і рост мастацкага ўзроўню прэзентаваных песень. Выступаючы з беларускім рэпертуарам, вучні пачынаюць больш цікавіцца нашай культурай, традыцыяй і гэта таксама спрычыняецца да захоўвання беларускй тоеснасці, — сказаў старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі.

Вядучая конкурс Альжбета Фіёнік дадала, што дзеткі і моладзь выступаюць у прыгожых касцюмах, выкананых паводле сучаснай моды або стылізаваных на мінулае. Частка юных самадзейнікаў прэзентуецца ва ўборах выкананых паводле традыцыйных мясцовых узораў і гэта выдатна ўзбагачае конкурс.

— Сёлета мастацкі ўзровень прэзентаваных беларускіх песень быў высокі і важна, што вучні выступілі з разнародным і цікавым рэпертуарам, які падыходзіў да іх узросту. Вельмі высокі мастацкі ўзровень спеву прэзентуюць вучні, што займаюцца ў Гайнаўскім доме культуры і гэта было відаць таксама ў папярэдніх выпусках конкурсу «Беларуская песня». Сярод дашкольнікаў асабліва ўразілі мяне дзеткі з Прадшколля № 14 у Беластоку, — заявіў член конкурснай камісіі Марыюш Харужы, — але вельмі ўдала запрэзентаваліся таксама калектывы з Бельска-Падляшскага.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Мудрасць стагоддзяў

Рабіць прагноз лягчэй за ўсё па хмарах.

У пагодныя, а перш за ўсё летнія дні далікатныя, пухкія, падобныя на воўну хмары на блакітным небе прадказваюць сухое надвор'е, асабліва калі ідуць вельмі высока і павольна. Аднак, калі надта парна, такія хмары згрувашчваюцца ў адну. Гэта паказвае, што ў атмасферы хутка наступяць перамены звязаныя з ліўнем. У нізе растрапанай хмары часта відаць цёмна-сіні шлейф дажджу, які абяцае магутны віхор. Пёрыстыя воблакі укладаюцца тонкімі пластамі, ляцяць вельмі хутка і высока над зямлёю. Яны — „авангард" надыходзячай навальніцы, асабліва калі трымаюць форму закручаных пасмаў, або пёрыстых хвастоў. Тады вядома, што перамены наступяць у бліжэйшыя 10-30 гадзін. Напрамак, у якім ідуць хмары, таксама гаворыць пра надвор'е. Калі яны з захаду — прадказваюць дождж. Часам можна заўважыць як пласты хмар, якія знаходзяцца на розных вышынях, плывуць у розных напрамках — гэта прадвяшчае буру.

Вятры таксама добрыя прадказальнікі надвор'я. Заходнія прадказваюць прахалоду, усходнія і паўднёвыя — сонечныя, сухія дні. Калі вецер раптоўна мяняе напрамак — гэта абяцае дождж і ўраган. Калі вакол сонца і месяца з'явіліся рознакаляровыя, як вясёлка, чырвоныя знутры або звонку пярсцёнкі і арэолы — чакайце дажджавую або снегавую навальніцу. Калі яны растуць проста на вачах — тады сігналізуюць аб праясненні. Гэтыя з'явы выклікае святло абодвух нябесных целаў, якое прабіваецца скрозь пласты вільготнага паветра, якія знаходзяцца высока над зямлёю. Калі арэол мае большы папярочнік, чым пярсцёнак, тады ён папярэджвае, што неўзабаве наступіць раптоўная перамена надвор'я. Калі нават пагодным ранкам з'яўляюцца грымоты і бліскавіцы, дык усё ж прадказваюць лівень у той самы дзень, найпазней перад захадам сонца, асабліва калі горача і парна.

**Максім ДРОЗД**

## ХІ Мастацкі пленэр

25 мая гэтага года ў Старое Ляўкова Нараўчанскай гміны прыехалі артысты-мастакі з розных мясцін нашай краіны, між іншым, з Аполя, Любліна, Вроцлава, Кладавы (Велькапольскае ваяводства), Беластока і з Гайнаўкі. З Гайнаўшчыны былі Віктар Кабац і Данель Грамацкі (ён — камісар сёлетняга ХІ Мастацкага пленэру). Усіх іх захапляюць маляўнічыя закуткі Нараўчанскай зямлі ды дзікая прырода Белавежскай пушчы. Яны зачараваныя імі.

Мастацкі пленэр працягваўся да 10 чэрвеня г.г. Адбываўся ён у святліцы і гатэлі ў Старым Ляўкове, дзякуючы прыхільнасці і дапамозе тутэйшых гмінных улад. Сёлета восенню можна будзе агледзець намаляваныя падчас пленэру карціны ў Гміннай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

**(яц)**


www.publicdomainpictures.net

# Чаромхаўскія спрэчнасці — 2

**12 кастрычніка 2012 года суполка „Насычальня шпалаў" у Чаромсе падала ў гміну заяву на атрыманне дазволу ў справе „будовы абсталявання для газіфікацыі драўляных адходаў, якія ўтвараюцца пры апрацоўцы драўніны і вытворчасці чыгуначных шпал, у стацыянарным рэактары з магутнасцю 500 кВт з вузлом ахаладжвання і ачысткі генератарнага газу і яго выкарыстання ў газавым рухавіку для вытворчасці электраэнергіі і цяпла" („Чаромхаўскія спрэчнасці", „Ніва" № 48 ад 25 лістапада 2012 г.). Калі аб гэтым загаварылі ў пасёлку, учыніўся закалот. Жыхары мяжуючай з насычальняй вуліцы Фабрычнай арганізавалі пратэст. У пісьме войту прад'явілі яны свае заўвагі і папрасілі выступіць да заяўніка, каб гэты даў поўную інфармацыю, у які спосаб прадукцыйны працэс паўплывае на асяроддзе.**

— Рапарт насычальня апрацоўвала ў студзені і лютым г.г., — гаворыць Ежы Анушкевіч, ініцыятар заснавання „Пратэстацыйнага камітэта вул. Фабрычная 31", затым Таварыства „Зялёная Чаромха". — 27 лютага мы прад'явілі пісьмовыя заўвагі наконт дакумента войту Юрыю Шыкулу. У сакавіку заяўнік патрабаваў ад Управы гміны звароту „Рапарта" дзеля нанясення папраўак. Канчаткова дакумент для грамадскай кансультацыі быў прад'яўлены ў красавіку. Варта адзначыць, што пад нашай петыцыяй падпісалася каля 250 чалавек з Чаромхі і навакольных вёсак. Дыкола праціўнікаў газіфікацыі павялічваецца. У пачатковым ходзе справы гаварылася агульна аб драўняных адпадах з апрацоўкі і вытворчасці шпал. Зараз стала вядомым, што тычыцца гэта старых шпал, насычаных небяспечнымі рэчывамі, у асноўным крэазотам. Паводле дакументацыі ў пілатажнай газіфікаванай чаромхаўскай кацельні спальвацца будзе трыста шэсцьдзесят старых шпал у суткі, што складае ў гадавым маштабе сто тысяч штук, а ў пераліку на вагу — сорак тысяч тон небяспечнай сыравіны, г.зн. дзесяць тысяч кубаметраў раздробненых 30x30 міліметраў стружак. Практычна гэта выглядае так, што праз сем з паловай тысяч чалавека-гадзін кругласутачна будзе выдаляцца ў паветра агідны пах дыму.

### *Смярдзючы бізнес*

— Наша фірма ў апошніх гадах зрабіла вялікі крок уперад і знаходзіцца ў добрым фінансавым становішчы, — канстатаваў старшыня суполкі Рышард Сакалоўскі. — Мусім думаць аб будучыні і пашыраць свае крыніцы даходу...

Ідэя здавалася быць вартай падтрымкі, зважыўшы на працяглы эканамічны крызіс і занепад чыгуначнай станцыі. Лічыцца кожнае месца працы. Ёсць аднак пры гэтым маленькае „але". Колькі новых месц працы прыбавіць Чаромсе гэты бізнес?

— У цяперашняй кацельні працуе пяць чалавек, — разважае Ежы Анушкевіч. — З прагнозаў пілатажнай газіфікацыйнай кацельні вынікае, што новае абсталяванне будзе абслугоўваць восем рабочых. Затым працу атрымае тры асобы. Ці апуха варта кажуха, зважыўшы на шкодны ўплыў новай інвестыцыі на акружаючае асяроддзе?...

— Рабочы клас заступілі капіталісты, якія клапоцяцца адно за сваю выгаду. Для іх важнейшы большы дывідэнд, чым чалавечая істота. Мы — ніщто: вёскі з хваравітымі старэчамі, якія неўзабаве развітаюцца з Божым светам, — гаворыць Лявон Селях з таварыства „Зялёная Чаромха".

— Асноўная для нас справа, каб мы і нашы дзеткі не траплялі на анкалагічнае аддзяленне ў бальніцу і не трацілі здароўе, — аргументавала чарговая член таварыства Малгажата Петрусевіч-Франьчак...

Шматлікія жыхары пасёлка і навакольных вёсак таксама скептычна ставяцца да ідэі пабудовы „спалярні", паколькі прадбачваюць пагрозу для развіцця агратурызму, баяцца пранікання ў глебу і паветра шкоднага для здароўя небяспечнага рэчыва — крэазоту.

Аб тым, што старыя шпалы з дэмантажу пуцей з'яўляюцца небяспечным матэрыялам, не трэба тлумачыць. Абгрунтаванне знаходзім у распараджэнні міністра аховы асяроддзя ад 27 красавіка 2001 года (Dz.U. nr 62 poz. 628 z 2001 r.). З дадатка № 3 да згаданага закону пад загалоўкам „Składniki odpadów, które kwalifikują je jako odpady niebezpieczne" пад індэксам „Ц" пералічваецца вышэй названы крэазот. Аналізуючы скрупулёзна дадаткі да распараджэння, знаходзім пасведчанне, што старыя шпалы з разборкі пуцей змяшчаюць небяспечныя рэчывы, такія як фенолы і вуглевадароды — бензол, этылбензол, толуол, ксілол, ацэнафтылен і флуорэн. Усе яны змяшчаюць таксічныя і шкодныя рэчывы для здароўя ў малой колькасці, а ў вельмі малых дозах — яны з'едлівыя, раздражняльныя, канцэрагенныя, мутагенныя і таксічныя для рэпрадуктыўнай сістэмы.

— Дарэчы, — прадаўжае высновы Ежы Анушкевіч. — Наконт дадатка № 4 грамадскі пратэстацыйны камітэт распараджаецца больш абшырнай навучнай апрацоўкай, якой не стану прад'яўляць, паколькі міністр аховы асяроддзя — прадугледжваючы вышэй паказаныя факты — у распараджэнні ад 27 верасня 2001 года (Dz.U. nr 112 poz. 1206) прыпісаў старым шпалам код 17 02 04, што абазначае іх як небяспечны адкід.

— Улічваючы вышэйпрыведзеныя факты і распараджэнне міністра аховы асяроддзя трэба сказаць, што прад'яўлены насычальняй рапарт лічу непрафесіянальным, несумленным і неверагодным, — завяршыў Ежы Анушкевіч, прадстаўнік „Пратэстацыйнага камітэта вул. Фабрычная 31".

**Уладзімір СІДАРУК**

# Мяжа — пагранічча — апора

— На жаль, у нас на польска-беларускім, -літоўскім, -украінскім, -расійскім памежжы добрых прыкладаў супрацоўніцтва я не бачу, — такі рызыкоўны тэзіс паставіў рэктар Беластоцкага ўніверсітэта праф. Леанард Этэль, адкрываючы навуковую канферэнцыю дактарантаў гэтага ўніверсітэта «Міжнароднае супрацоўніцтва і рэгіянальнае развіццё. Прыгранічнае распалажэнне і магчымасці росту». У яе ходзе былі зачытаны каля трыццаці дакладаў на шэраг пытанняў, у тым ліку эканамічных, прававых, сацыялагічных і культурных, звязаных з размяшчэннем рэгёнаў, асабліва ўсходняй Польшчы пры знешніх межах Еўрапейскага Саюза, перш за ўсё Падляшскага ваяводства.


Злева: рэктар Беластоцкага ўніверсітэта праф. Леанард Этэль, прафесар эканомікі і кіравання Генрык Вгароўскі, прафесар сацыялогіі Андрэй Садоўскі, Яўген Вапа

Адкрываючы дыскусію, рэктар Беластоцкага ўніверсітэта абвясціў аб намеры падпісання 10 кастрычніка г.г. пагаднення аб стварэнні сеткі ўніверсітэтаў, у рамках якой яны будуць больш цесна супрацоўнічаць з беластоцкім — з беларускімі ўніверсітэтамі з Брэста і Гродна, украінскімі — з Львова і Цярнопаля, літоўскімі — з Коўна і Вільні, расійскімі — з Калінінграда, а пазней і Варонежа:

— Гэта выдатная магчымасць для Універсітэта ў Беластоку.

Рэктар Этэль выказаў надзею, што наступная, трэцяя такая канферэнцыя пройдзе ў Беластоку з удзелам навукоўцаў з вучэльняў-удзельніц сеткі:

— На сённяшні дзень не хапае для мяне таго дыху пагранічча.

У адказ адзін з арганізатараў канферэнцыі (Універсітэцкая рада Самаўрада дактарантаў ды Факультэт эканомікі і менеджменту Беластоцкага ўніверсітэта), заявіў, што прапановы не сустрэліся з адсутнасцю адказу вучэльняў, распалажаных за ўсходняй мяжой, а зацікаўленыя з беларускіх — мяркуючы па ўсім — не атрымалі віз. Дэкан Факультэта эканомікі і кіравання прафесар Генрык Внароўскі адзначыў:

— Пры мяжы маем два «выкрутасы» (праблемы — М. Х.): прававыя праблемы перасячэння мяжы таварамі і адрозны ў нашых краінах валютны курс. Гэтыя паказчыкі, аднак, будуць вельмі доўга пагданяць бізнес.

Д-р Ежы Грабавецкі з гэтага ж факультэта, успамінаючы пра ўмовы развіцця экспарту Падляшскага ваяводства і абапіраючыся на выніку даследаванняў, прыйшоў да высновы:

— Нягледзячы на памежнае палажэнне Падляшша, яго доля ў экспарце, з улікам валавога ўнутранага прадукту, значна ніжэйшая, чым у іншых ваяводствах. Тое ж самае тычыцца інвестыцый.

Апошнія даныя паказваюць, што кошт экспарту і імпарту павялічыўся, але запісана адмоўнае сальда экспарту і імпарту.

Падкрэсліў:

— Падляшша не выкарыстала шанцу, які дало далучэнне Польшчы да ЕС. Яно з'яўляецца адным з самых малых экспарцёраў. Займае перадапошняе месца, а вартасць экспарту на душу насельніцтва была ніжэйшай у год чым тысячу еўра. Прыкметным на Падляшшы з'яўляецца так званая нізкая ступень адкрытасці. Экспарт не вызначае тут вытворчасці ў дастатковай ступені. Замежны капітал па-ранейшаму абыходзіць наша ваяводства, і ўсё ж ён з'яўляецца рухавіком экспарту прадпрыемстваў з замежным капіталам. Экспартная прапанова фірм Падляшша горш прыстасаваная да канкурэнцыі, чым у іншых ваяводствах.

Сярод агульных высноў пералічыў:

— Назіраецца павелічэнне значнасці рынкаў былога Савецкага Саюза, і збядненне важнасці рынкаў ЕС.

І тут ён адзначыў:

— Падляшскія экспарцёры амаль не выкарыстоўвалі структурных праграм развіцця экспарту. Экспартным шанцам з'яўляюцца рэгіянальныя прадукты, якіх у Падляшшы запісалі сорак два, больш чым у іншых рэгіёнах.

Сацыёлаг Андрэй Садоўскі з Беластоцкага ўніверсітэта сказаў у самым пачатку:

— У нашым ваяводстве няма агульнага дыскурсу аб яго развіцці. Існуе адсутнасць згуртаванасці паняццяў. Мяжа мае іншы канцэптуальны сэнс, чым памежжа, на якім пражываюць нацыянальнасці з аўтаномнай культурай.

На яго думку, канчаткова і прыярытэтна не вызначана, што неабходна для развіцця рэгіёна, а гэта — як пералічыў — між іншым, прыродныя рэсурсы, памежнае месцазнаходжанне і культурная разнастайнасць, канцэпцыя звязаная з узаемадзеяннем, якая адрозніваецца ад шматкультурнасці. Падкрэсліў:

— Прыгранічныя рэгіёны з'яўляюцца залежнымі абшарамі, а гэта абазначае, што жыхары могуць мала сказаць з пункту гледжання ўлады або сваёй і калектыўнай самаідэнтыфікацыі. У Польшчы надалей дамінуе сістэма, па-ранейшаму абапертая на цэнтры: Варшава і астатняя частка краіны. Напрыклад, эканамічныя рашэнні ці датычныя польска-беларускіх адносін прымаюцца ў сталіцы. Дэмакратыя ў той жа час гэта не дыктат адзінага цэнтра.

Таксама заўважыў:

— У навучальных праграмах няма месца на праблемы памежжа і суседзяў. Рыса прыгранічных рэгіёнаў гэта — што яны на перыферыі, і што яны павінны змагацца са стыгматамі (у апошні час: Беласток — расісцкі горад — М. Х.). Беласток з'яўляецца першым месцам усходніх крэсаў. Многія пытанні аб мяжы — па-за ім. Яны залежаць ад адносін паміж дзяржавай і яе суседзямі.

Прыкмеціў таксама:

— Праз тое, што Вроцлаў паказаў сябе, што з'яўляецца шматнацыянальным, у эканамічным плане здабыў вялікую карысць. Беласток, які сапраўды такім з'яўляецца, не ўмее.

Гісторык Беластоцкага ўніверсітэта Данель Боцькаўскі, спасылаючыся на гісторыю пагранічча, сказаў:

— Нам увялі жорсткія межы, а пагранічча мы самі сабе ўпарадкавалі. Пасля далучэння да ЕС, мы сталі апорай. Аб тым, што можам, вырашаецца нават не ў Варшаве, а ў Брусэлі. З польскім далучэннем да Шэнгенскай зоны наступіў рэальны падзел на два светы гэтай часткі Еўропы: палітычна-эканамічны і культурны. Мы, як пагранічча, з'яўляемся фільтрам для розных людзей, якія наплываюць сюды, напраклад, для бежанцаў.

Ён рызыкаваў заяву:

— З увядзеннем шэнгенскай мяжы падзел стаў больш стабільным, чым той, які быў накінуты нацысцкай Германіяй і бальшавікамі. Як грамадзянін Шэнгена на нашай мяжы я адчуваю сябе як на апоры, а што ўжо казаць пра тых, хто хоча прыехаць сюды, у цэнтр. Мы пабудавалі сцяну цяпер большую, чым была раней. Заходнееўрапейская цывілізацыя з аднаго боку і ўсходнееўрапейская з другога спыніліся на польска-беларускай, -украінскай, -рускай межах.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП успамінаў:

— У маім дзяцінстве за мяжой быў толькі Савецкі Саюз (Яўген Вапа нарадзіўся ў Доўгім Бродзе ў гміне Дубічы-Царкоўныя, пры польска-беларускай мяжы — М. Х.). І гэтая прастора была супольнай. Мой дзед быў грамадзянінам пяці краін, не рухаючыся з месца. У нас была жалезная заслона, якая падзяліла напалову натуральны агульны арганізм натуральна ўстойлівай культуры быцця разам, не талерантнасці. Быць разам на самой справе ўяўляе сабой партнёрства, а не талерантнасць. Сёння гэтая мяжа, званая папяровай, яшчэ больш жорсткая.

І далей пытаўся:

— Чаму ў Беластоку не функцыянуе беларуская мова ў якасці гутарковай?

Дэкан Внароўскі паспрабаваў адказаць:

— Гэта віна тых, хто гаворыць на гэтай мове.

Уключыўся прафесар. Садоўскі:

— Паводле маіх даследаванняў, больш, чым 27 адсоткаў рэспандэнтаў баяцца праяўляць свае погляды.

Яўген Вапа працягваў:

— Калі мы гаворым пра Беласток, калі б не было мяжы ў гэтым рэгіёне, было б больш шматкультурнае Гродна, та-

працяг ☞11

# УВАГА КОНКУРС

## XVI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XVI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядаць працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

*Прынцыпы ўдзельніцтва*

1. Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— **I група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— **II група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у чатырох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XVI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

*Тэрміны*

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае **31 кастрычніка 2013 г.** (вырашае дата паштовага штампа).

2. Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2013 г.

3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

## Перабудуюць маставыя гарадскіх вуліц

Сёлета ў Гайнаўцы будуць аднўлены — ёсць такія планы — маставыя на 9 вуліцах, у тым ліку на вул. Ажэшкі, Лагоднай, Сонечнай, Пташынскага, Верпахоўскага і Жвіровай — за 3 мільёны 250 тысяч злотых.

Новае электраасвятленне атрымаюць вуліцы 3 Мая, Пілсудскага, Гурная, Простая, Верасовая, Бельскага, Тарговая, Беластоцкая і Спартыўная — за 300 тысяч злотых.

Варта дадаць, што аднаўленне вуліц у Гайнаўцы ад пару гадоў з'яўляецца прыярытэтнай справай.

**(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Беларускі малебен за школьнікаў









У час, калі айцец Рыгор узяў слова, запанавала ціш. Гукі роднай мовы наклікалі мядок у сэрцы. Першакласнік Кандрат, які раней стаяў з татам, пачаў набліжацца да прастола. Крок па кроку. Пасля нейкага моманту ён стаяў ужо на самым перадзе. Яго прыклад заахвоціў іншых. За Кандратам крочылі іншыя хлопчыкі. Але той бачна пільнаваў, каб ніхто яго не апярэдзіў ды сам прабіваўся ўперад.

Праз момант мы глядзелі на *гжэчных* першакласнікаў, іх цягу да роднага слова, малітвы.

Настаяцель Свята-Юр'еўскай царквы ў Беластоку — таленавіты аратар. Яго добрыя словы пра патрэбу захавання роднай мовы, спадабаліся дзецям і дарослым. А ўжо найбольш такім як Кандрат, якія самі размаўляюць на прыгожай беларушчыне.

Малебен за навучэнцаў беларускай мовы, іх настаўнікаў і бацькоў адбыўся ў важны дзень — у свята Еўфрасінні Полацкай, асветніцы і нябеснай заступніцы Беларусі. У царкву прыйшлі вучні з бацькамі з усіх школ і прадшколляў, у якіх вядзецца навучанне роднай мовы. Але не толькі... Побач мяне стаялі бацькі былой вучаніцы, сёння студэнткі ў іншым горадзе.

Беларускія малебны за школьнікаў адбываюцца два разы ў год: у пачатку і ў канцы школьнага года. У гэты раз малебен адслужылі аж тры святары: настаяцель Рыгор Місіюк і айцы Валяр'ян Антасюк ды Уладзіслаў Масайла. Малебен прыаздобіў прыхадскі хор пад кіраўніцтвам матушкі Анны Цыркун. Згодна з традыцыяй, на канец дзеці і дарослыя праспявалі „Магутны Божа". Варта дадаць, што беларускія малебны служацца па ініцыятыве бацькоў з аб'яднання АБ-БА. Апошняя звестка хай будзе прыкладам для школьнікаў з іншых мясцін.

**ЗОРКА**

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Загадка № (24)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку" да 16 чэрвеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*Гудзе,*
*Ды не самалёт,*
*Можа раніць,*
*Ды не страла.*
*Хто адгадае,*
*Хто гэта?*

Уладзімір Карызна

Адказ на конкурс № 19-13: Юр'е (в), Ярыла (б), Музей у Студзіводах (б). Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі **Магдаліна Мішчук** і **Габрыела Красько** з Арэшкава. Віншуем!

# Вершы Віктара Шведа

## Ці праўда?

— Ці праўда, мой татка,
Пытаецца Коля,
Што таткі і маткі
Інакш бачаць колер?

— Калі чорным бачу
Я свет наш сучасны,
Дык маці іначай —
У колерах ясных.

## У лекара

Маці кажа: — Наш сынок
Нас напоўніў неспакоем.
Ён, брыдота, еў пясок,
Запіваў яго вадою.

— Сын набыў дурных манер,
Траціць розуму працэнты.
Пільнуйце толькі каб цяпер
Не наеўся ён цэменту.

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Жаронцы

## *Беларуская народная казка*

Жылі дзед ды баба. Нічога ў іх з гаспадаркі не было — толькі пеўнік і жаронцы. Дзіўныя гэта былі жаронцы: паложыць у іх дзед зярнятка, пакруціць раз-другі, і цэлая кадушка мукі намелецца.

Добра жылі дзед з бабай самі і пеўніка не крыўдзілі. Дачуўся пра дзіўныя жаронцы пан.

Парашыў ён украсці іх. Прыехаў адвячоркам да дзеда і просіцца пераначаваць. «На паляванні, — кажа, — быў: далёка дадому ехаць, а тут ноч надыходзіць».

— Начуй сабе, — кажа дзед, — месца хопіць. Уночы, як дзед і баба заснулі, пан украў жаронцы ды паехаў. Моцна затужылі дзед з бабай па жаронцах. Сядзяць яны галодныя ды плачуць. Пеўнік слухаў, слухаў іх, а потым і кажа:

— Не плачце, я вярну вам жаронцы!

— Дзе табе вярнуць іх! — кажуць дзед і баба. — Пан цябе і на парог не пусціць.

— Нічога, — падхрабрыўся пеўнік, — вярну. Хоць сам загіну, а жаронцы вярну.

Развітаўся ён з дзедам і бабай ды паляцеў у панскі двор. Ляціць ён дарогаю, ляціць ён шырокаю, а насустрач яму каршун.

— Куды, певень, ляціш? — пытаецца.

— У двор да пана.

— Чаго?

— Пан у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Я лячу іх сыскаць.

— Вазьмі і мяне з сабою.

— Лезь у валляк!

Каршун улез пеўніку ў валляк. Пеўнік паляцеў далей. Ляціць ён дарогаю, ляціць шырокаю, а насустрач яму лісіца:

— Куды, певень, ляціш?

— У двор да пана.

— Чаго?

— Пан у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Лячу іх сыскаць.

— Вазьмі і мяне з сабою.

— Лезь у валляк.

Лісіца ўлезла пеўніку ў валляк. Пеўнік паляцеў далей. Ляціць ён дарогаю, ляціць шырокаю, а насустрач яму барсук:

— Куды, певень, ляціш?

— У двор да пана.

— Чаго?

— Пан у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Лячу іх сыскаць.

— Вазьмі і мяне з сабою.

— Лезь у валляк.

Барсук улез пеўніку ў валляк. Пеўнік паляцеў далей. Ляціць ён дарогаю, ляціць шырокаю, а насустрач яму воўк:

— Куды, певень, ляціш?

— У двор да пана.

— Чаго?

— Пан у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Лячу іх сыскаць.

— Вазьмі і мяне з сабою.

— Лезь у валляк!

Ляцеў, ляцеў пеўнік і прыляцеў у двор да пана. А ў пана ў гэты час былі госці — пілі, гулялі. Вокны і дзверы насцеж парасчынялі.

Узляцеў пеўнік на падваконне, залопаў крыламі ды заспяваў на ўвесь голас:

— Ку-ка-рэ-ку! Каб пан не дажыў веку! Ён у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Я прыляцеў жаронцы сыскаць. Аддавай, пан, жаронцы.

Пану стала брыдка перад гасцямі, што пеўнік яго злодзеем абзывае. Вось ён і кажа:

— Слугі, слугі, схапіце гэтага крыкуна, укіньце ў куратнік: няхай яго куры задзяўбуць!

Схапілі слугі пеўніка, укінулі ў куратнік, а самі пайшлі. Тут пеўнік і кажа:

— Каршун, каршун, вылазь з валляка, падушы курэй.

Выскачыў каршун з валляка, перадушыў усіх курэй ды паляцеў у лес. Пеўнік зноў прыляцеў на падваконне:

— Ку-ка-рэ-ку! Каб пан не дажыў веку! Ён у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў...

— Ах, — кажа пан, — дык яго куры не задзяўблі? Добра ж! Слугі, слугі, схапіце гэтага крыкуна, занясіце ў гусятнік, няхай яго гусі зашчыпаюць!

Схапілі слугі пеўніка і ўкінулі ў гусятнік. Пеўнік ачухаўся ды кажа:

— Лісічка, лісічка, вылазь з валляка, падушы гусей.

Лісіца так і зрабіла, а сама ў лес пабегла. Паляцеў пеўнік на падваконне ды зноў сваё спявае:

— Ку-ка-рэ-ку! Каб пан не дажыў веку!..

— Ах, — кажа пан, — дык яго і гусі не зашчыпалі? Добра ж! Слугі, слугі, нясіце яго ў свінарнік: няхай яго свінні загрызуць.

Занеслі слугі пеўніка ў свінарнік. А там пеўнік кажа:

— Барсук, барсук, вылазь з валляка, пагрызі свіней.

Барсук так і зрабіў, а сам пабег у лес. Прыляцеў пеўнік на падваконне. «Ку-ка-рэ-ку!..»

— Ах, — кажа пан, пачуўшы пеўнікаў голас, — дык яго і свінні не загрызлі?.. Слугі, слугі, укіньце яго ў стайню: няхай яго коні затопчуць.

У стайні пеўнік кажа:

— Воўк, воўк, вылазь з валляка, парэж коней.

Воўк выскачыў, парэзаў усіх коней і ходу ў лес.

Прыляцеў пеўнік на падваконне:

— Ку-ка-рэ-ку!..

Пан аж за галаву хапіўся: што ж рабіць? Потым кажа:

— Слугі, слугі, схапіце гэтага крыкуна, занясіце кухару, няхай ён яго засмажыць.

Слугі так і зрабілі. Кухар засмажыў пеўніка і прынёс на талерцы пану. Пан схапіў яго ды і праглынуў са злосці ўсяго адразу. А пеўнік ажыў у панскім жываце, вытыркнуў дзюбу праз правае вуха ды заспяваў:

— Ку-ка-рэ-ку! Каб пан не дажыў веку!..

Пан закрычаў:

— Слугі, слугі, хапайце сякеры, сячыце гэтага нягодніка!

Схапілі слугі сякеры, як секанулі, дык і адсеклі пану правае вуха... А пеўнік перапалез у левае вуха ды зноў заспяваў.

— Слугі, слугі, — крычыць пан, — сячыце яго!

Секанулі слугі, ды не па пеўніку, і адсеклі пану левае вуха. Застаўся пан без вушэй. Тады пеўнік высунуўся праз рот.

— Слугі, слугі, — крычыць пан, разявіўшы рот, — сячыце, сячыце яго!

Секанулі слугі, ды не па пеўніку, а па языку, — адсеклі пану язык.

А пеўнік выскачыў, паляцеў на падваконне, сеў і спявае. Бачыць пан — няма рады: усю яго жывёлу пеўнік перадушыў, ды і самога скалечыў. Вынес ён жаронцы з пакояў і аддаў іх пеўніку.

Пеўнік схапіў адзін камень пад адно крыло, другі — пад другое і паляцеў дахаты.

Зарадаваліся дзед з бабай жаронцам, пачалі ў іх муку малоць. З мукі хлеб пякуць, самі ядуць і пеўніку даюць.

Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ

## Мухамор

Расце ў лесе мухамор.
Мае вялікі панадворак
І белы плашч цэлы.
Чаму не цэлы ён белы?
Яго баяцца ў лесе ўсе!
Выбраўся ён на шпацыр удзень,
Бачыць, а воўк ватагу вядзе.
Ваўкі хацелі яго разарваць.
Прыляцела птушка і кажа:
„Стаць!
Калі вы яго разарвеце,
Усе адразу памрэце!”
Птушка іх пералякала,
Ватага хутка паўцякала.
Ад тае пары мухамор з птушкай
жывуць у згодзе
У прыгожай пушчанскай
прыродзе.

## Польска-беларуская № 24 крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 20:

Рань, вяз, вір, лодка, пеўнік, траўка, но. Работа, на, пах, леў, воўк, відна, яркі, акно. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Магда Пташынская**, **Наталля Васько** з Нараўкі, **Моніка Зырчук-Жар** з Орлі, **Юлія Скарбіловіч**, **Магдалена Хвашчэўская** з Бельска-Падляшскага, **Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Іаанна Раманюк**, **Паўліна Вяршко** з Новага Корніна, **Вераніка Рукша**, **Аня Рукша**, **Моніка Суровец** з Бабікаў. Віншуем!

Miodek, Bis, Miska, Szkło, Siostry, Prąd, Okno, Tęcza, Komedia, Szczyt, Port, Sen, Rząd, Bez, Ob, Nie, Ikar, Dywizja

## Łan wierszy

Wiktorowi Szwedowi

*Łan wierszy*
*jak kwitnące zboże*
*mieni się odcieniami*

*Żywe pejzaże unoszą*
*świat wspomnień obok*

*Oto pieśń ziemi ojców*

*W zadumie*
*i w trwodze*
*głos poety*

**Borys RUSSKO**
Warszawa, 5 maja 2013 r.

## Палетак вершаў

Віктару Шведу

*Палетак вершаў*
*як квітнеючае збожжа*
*мяняецца адценнямі*

*Жывыя пейзажы ўзнімаюць*
*свет успамінаў побач*

*Вось песня зямлі бацькоў*

*У задуменнасці*
*і ў трывозе*
*голас паэта*

**Барыс РУСКО**
Варшава, 5 мая 2013 г.

## Санаторныя роздумы

*Далёка ад сям'і, ад Мора,*
*Ад пупавіны чалавечай.*
*Прыехаў я ў санаторый,*
*Каб змучанае цела лечыць.*

*Здаецца, быццам і не хворы,*
*Аднак жа пакарыцца трэба.*
*Я ж на этапе двух васьмёрак,*
*Жыву ўжо між зямлёй і небам.*

*А калі ўдасца так папросту,*
*Ды маю гэта на прыкмеце,*
*Што пражыву год дзевяноста –*
*Вып'ем за вытрымку на свеце!*

**Віктар ШВЕД**
Налэнчаў,
23 сакавіка 2013 г.

## Глінкі

*За вёскаю былі старыя ямы,*
*Іх паходжанне вядомае ў народзе.*
*Глінішчы ў нас зваліся глінкамі,*
*Тут капалі гліну ад стагоддзяў.*

*Печы хлебныя скрозь убівалі з гліны*
*І такі гліняныя ў стадолах,*
*Ды падлогі ў бедненькіх хацінах,*
*А такіх было без ліку ў сёлах.*

*Помніцца, я быў пяцігадовым*
*І з васьмігадоваю сястрыцай*
*На глінкі пайшлі ў дзянёк вясновы,*
*Там у яме я пачаў тапіцца...*

*А сястра пабегла ў перапудзе*
*Да матулі з горкім плачам, жалем.*
*Меў я шчасце, у тым часе людзі*
*Як тапельца мяне ўратавалі.*

**Віктар ШВЕД**
Беласток, 18 мая 2013 г.

# Хрысціна з Лукі


Хрысціна Саўко-Гегель

Яе шчыры твар на першым плане здымка са з'езда карэспандэнтаў, леваруч Жэні Аўсенюк-Мартынюк, у юбілейным альбоме «„Ніва" — час і людзі 1958-2006», застаўся неразгаданым. І на яшчэ адным здымку Хрысціна Саўко апынулася ў гэтым альбоме — пасярод дзяцей з лучанскай школы на лавачцы яна сядзіць першая справа. І выцягвае сёння гэты альбом з паліцы ў бібліятэцы гарадоцкай школы, калі я прыехала на аўтарскую сустрэчу, бібліятэкарка і аніматарка культуры Хрысціна Гегель: „Я тут!" — „Хрысціна!" — аж войкнула я і разгадала ў твары статнай жанчыны колішнюю паэтычную дэбютантку і карэспандэнтку „Нівы": „Хрысціна Саўко!" — „А адкуль вы ведаеце маё паненскае прозвішча?!" — „Чытала я вашы вершы, цікавілася, што цяпер робіце! Я вас шукала больш за чвэрць стагоддзя!" 37 гадоў таму на апошняй Літаратурнай старонцы ў снежні 1976 года дэбютавала была вершам Хрысціна Саўко з Лукі. 1961 года нараджэння.

Ва ўтульнай зале гарадоцкай бібліятэкі моцна ажывілася калега Хрысціны настаўніца Анна Грыцук, якая вядзе таксама тэатральную групу (Хрысціна з меншымі вучнямі, Анна — з гімназістамі), а і вучням, што заглянулі на перапынку ў залу бібліятэкі, таксама нечаканасць: пані Крыся — аўтарка вершаў!

— Найважнейшае месца каляжанку, якая пахваліць, падтрымае, падкажа, — прызнаецца пані Анна. — Яна проста дзейнічае як тэрапеўт. Філасофствуе, але і займаецца канкрэтным.

Размаўляем па-свойму.

— Я мусіла па-свойму гаварыць і пісаць, калі вучылася ў Культурна-асветнай студыі ў Цеханове (яшчэ кончыла і бібліятэкарскае ды тэатральнае аддзяленні), — прызнаецца Хрысціна Гегель. — Я там пісала працу на тэму „Моўныя памылкі, сустраканыя ў гутарковай мове жыхароў Беласточчыны". Тыя памылкі мелі быць родам з „гаворкі". Пытаюцца мяне на экзамене: „Як размаўляюць на Беласточчыне? А як вы гаворыце?" Кажу: „Па-беларуску". — „Скажыце, якую справаздачу дасце сваёй маме, калі вернецеся з экзамена!" Дык давай я гаварыць па-свойму. Чакаючы выніку мела я страшэнны стрэс. Думаю: „Ну, я тут адна праваслаўная ва ўсім гэтым Цеханове!.." Атрымала пяцёрку з абароны дыплома. Вядома, я баялася не таму, што так гавару, дык розныя маглі быць адносіны. У Луцэ, калі я пайшла ў школу, вядома, мы ўсе малыя па-польску ведалі толькі „dzień dobry" і „dziękuję". Жылі мы ў Луцэ ў доме пад нумарам 86. Шкада дому, шкада вёскі. Калі нас перасялялі перад заліваннем Семяноўскага вадасховішча, нам дом развалілі. Страціла я там усе свае вершы, экземпляры „Нівы" з маімі допісамі. Дом наш можна ўбачыць толькі ў альбоме чалавека, які калісь працаваў пры ліквідацыі вёсак, а цяпер стараецца ўвекавечыць тое, што прапала. Мае бацькі жывуць у Бандарах. Я пасля школаў стала працаваць у Міхалове ў інтэрнаце прафесійнай кравецкай школы, пасля, калі яе ліквідавалі, перасялілася ў Гарадок.

Як пачала пісаць?

— Проста, усе мы падпісваліся на „Ніву". Я чытала „Ніву", „Зорку", нават з „Зоркі" атрымала кніжкі-ўзнагароды, яшчэ ў пачатковай школе — між іншым „Казкі". У нашай бібліятэцы ёсць такая кніжка, у цёмна-сіняй вокладцы. Я вельмі любіла паэзію, старалася крышку сама пісаць. Пасля, у міхалоўскім ліцэі, настаўніца польскай мовы занялася мною. Яна мяне не перастаўляла на польскую мову, мае беларускія вершы таксама ведала. Я ў першым класе адправіла свае вершы ў „Ніву". Пасля дэбюту была запрошана на семінар. У той час было шмат дэбютаў маладых аўтараў, паявіліся яны на сустрэчы. Пасля я атрымала запрашэнне, каб прысласць свае творы ў белавежскі альманах. У першы момант я вельмі ўцешылася, а пасля — спалохалася! Я па натуры была нясмелай асобай і падумала: „Дзе ж мае абы-якія вершыкі, у такую кніжку?!" І я іх проста... не выслала. І пасля пайшла ў свет... Якая з мяне паэтка! І цяпер нават сваіх дэбютанцкіх вершаў не маю, пагубіліся ў час таго як нас выкідалі з Лукі... Хаты няма... І мама маіх вершаў не трымае, не захавала...

Хрысціна разгортвае новы нумары „Нівы", што ляжаў на паліцы сярод іншых часопісаў. А ў ім верш — таксама „не-паэткі" Галіны Шульскай-Пех.

— Адкуль гэты верш пра Луку? Аўтарка з Лукі? Мушу пашукаць хату Шульскіх у альбоме... У нашай бібліятэцы ёсць і беларускія кнігі. А я апрача чытання любіла і дэкламаваць. На адным конкурсе прадэкламавала свой твор, які вельмі спадабаўся журы. І цешуся, што вяду ў Гарадку тэатральны гуртok. Вельмі цікавыя, таленавітыя дзеці тут у нас. Дэкламуюць і пабеларуску. У гарадоцкай школе на беларускую мову ходзіць, між іншым, дзяўчынка, якой бацькі прыехалі з Паморска-Куяўскага ваяводства, вучаніца другога класа, якая на дэкламатарскім конкурсе „заскавала" дэкламацыяй Юльяна Тувіма па-беларуску. Дома яны гавораць толькі па-польску. Арганізуем у бібліятэцы літаратурныя конкурсы. Маглі б па-беларуску, з пані Тамаркай.... А ці сама пачала б зноў пісаць? Можа, на гаворцы... Часу няма, каб сесці і папісаць. Можа... і не хочацца?.. Мела я свой сшытак з вершамі...

— Твае філасофскія роздумы адно і запісаць застаецца, — заўважае спадарыня Анна.

— Ну калі вы са свету вярнуліся на родную зямлю, і якраз у Гарадок, дык вам нічога не застаецца, каб пісаць па-свойму... А і пашукаць сярод „сваіх дзяцей" талентаў падобных як у тае дзяўчынкі з вялікай вёскі над поймай Нарвы! — я ўпэўнена і вельмі рада, што ўрэшце знайшла Хрысціну з Лукі Нараўчанскай гміны. Адтуль, дзе „найбольшая шчыльнасць паэтаў на квадратны кіламетр".

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

Дэбют. Хрысціна Саўко:

*Нарадзілася я 3 красавіка 1961 года ў вёсцы Лука, у сям'і селяніна. У верасні 1968 года я пайшла ў першы клас падставовай школы ў Луцэ, а ў чэрвені 1976 г. закончыла падставовую школу. Цяпер я вучуся ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове. Вершы я пачала пісаць, калі перайшла ў сёмы клас. Спачатку пісала толькі папольску, потым адчула страшэнную ахвоту выказацца на роднай мове — па-беларуску, бо ўсё ж такі гэта мова, на якой я сказала першае слова. Цяпер пішу вершы і апавяданні — у залежнасці ад таго, як прыйдзе натхненне...*

*„Ніва" № 49 (1084), 5.12.1976 г.*

## Стаіш

думаеш аб тым
што
было а што будзе
і што ніколі не паўторыцца
успаміны пра цара
слаўную каралеву
нават забудзешся
пра сябе
пра жыццё сваё
якое будзе здавацца
табе невыгодным
потым
як здумаеш пра ўсё
што было
і не было
прыпомніш сабе
і ўсміхнешся
успомніцца
гадоў мінулых песня
ты ўстанеш
і рукі падымеш угору
і забудзешся пра тое
што не павінна было
увайсці ў аснову жыцця твайго

*„Ніва" № 49 (1084), 5.12.1976 г.*

* * *

Як ціха ціха
нічога не чуваць
адышло ўсё
кудысь далёка
і той дом са
страхой сівой
тое крэсла што
часамі было
з нагой крывой
адышло
і вярнуцца не хоча
а якая была ў мяне
яшчэ цяпер ахвота
зірнуць на тое
раз-адзіны
успамянуць
тыя хвіліны
блізкія
і дарагія
але тыя малыя
малыя
і сказаць слова
роднае
і глянуць на неба
пагоднае
і на ўсё што
калісь было каля
мяне і блізкіх
як добра было б
распачаць жыццё
ад гадоў як
былі мы ў калысцы
і такімі вачыма
дзівіцца на гэты
свет белы
і быць умелым
умелым
умелым
умелым

*„Ніва", 6.02.1977*

# Памятка вялікім заваёўнікам

**У Танкелях, вёсцы, распаложанай між Бугам і шашой з Сямятыч у Варшаву, акурат перад мостам, злажу з аўтобуса перад поўднем. У вёсцы стаіць антрапагенная цішыня, у якой выдатна праслухоўваецца радасны птушыны канцэрт. Сонечнае цёплае надвор'е, 9 мая. Акурат гадавіна заканчэння вайны, якое адбылося ў паслявелікодны тыдзень: у 1945 годзе каталіцкая велікодная нядзеля выпала 1 красавіка, а праваслаўная — 6 мая; сёлета гэтыя святы выпалі днём раней.**




У Танкелі выбраўся я невыпадкова — за гэтай вёскай адзін з найбуйнейшых могільнікаў ваенных ахвяр. Акурат трапіў я на момант, калі па абодвух баках могільнікавай агароджы панавала цішыня. Але ў абсягу шырэйшага часовага кругагляду цішыня толькі ўнутры прамавугольніка, пад якім спачылі ахвяры ваеннай дзікасці. Навонкі могільнікавай агароджы поўня сельскагападарчага жыцця — нават звалачка падгніваючых саламяных цюкоў абапертая на могілкавай агароджы.

Унутры прамавугольніка асфальтавая дарожка ад фортачкі да абеліска, што ўзведзены на канцы мемарыяльнага ўчастка. На дарожцы ляжаць тыя памяткі, якія штогоду прырода пакідае за сабою; у гэтым выпадку пакінулі іх дрэвы, што пасаджаны край агароджы. Па абодвух баках асфальтавай дарожкі па абшырнай сімвалічнай брацкай магіле. Абведзены яны цэментнымі бардзюрамі; на кожнай з іх каля дзесятка міні-стэлаў з чырвонай зоркай наверсе.

Побач уваходнай брамкі дзве мемарыяльныя табліцы: на адной з іх па-польску, на другой па-руску напісана, што пакояцца там астанкі ваеннапалонных і цывільных ахвяр гітлераўскага варварства колькасцю ў 25 тысяч чалавек. Падобная інфармацыя напісана і на абеліску, пастаўленым у дваццатую гадавіну пачатку апальнай гэтым ахвярам вайны, значыць у 1961 годзе. Тут таксама паведамляецца, што злачынствы былі ўчынены ў другой палове 1941 года — з ліпеня да снежня.

Віктар Рудчык у сваім цыкле „Буг у агні", напісаным у 1980-1981 гадах, згадваў пра крывавыя падзеі, якія адбываліся ў ваенны час у Танкелях. Ён прыводзіў выказванне аднаго з сялян з вёскі Мінчэва, якая ў нейкіх чатырох кіламетрах ад Танкеляў: „Я якраз будаваў у Танкелях стадолу і бачыў усё як на далоні. Адзін раз прыгналі аж тры біткам набітыя машыны, а пасля зноў і зноў. Загадалі ім станавіцца ў шарэнгі, як для маршу, і пагналі ў глыбокі роў, а на берагах гэтага рову стаялі ўжо напагатове нямецкія кулямётчыкі. Чакалі, пакуль іх ахвяры ўвойдуць у зону абстрэлу, і тады заводзілі свае машыны. З цэлай калоны пакідалі яны некалькі чалавек, каб пасля крыху прысыпалі сваіх сяброў, а затым і гэтых таксама тут жа расстрэльвалі. Але здаралася і так, што некаторым удавалася нейкім цудам выратавацца ад гэтага расстрэлу. Гітлераўцы спяшаліся як мага хутчэй закончыць сваё крывавае жніво. Яны дакладна не правяралі, хто яшчэ жыве, а хто прытаіўся, прыкінуўся мёртвым, а вечарам або ноччу, калі ўсё супакойвалася, выходзілі яны з гэтай кучы трупаў і шукалі ратунку ў нашых людзей. На заставе ў Вярхучы быў адзін афіцэр-пагранічнік, якога я ведаў асабіста. Ён таксама такім жа спосабам выратаваўся ад смерці і, можа, дайшоў яшчэ да Берліна. Сустрэў яго я ізноў летам 1944 года, калі Савецкая Армія прыйшла сюды ізноў і прынесла нам вызваленне. Афіцэрскага звання яму ўжо не вярнулі, але зброю далі і ён цяпер ведаў лепш за другіх, з якім ворагам ваюе...".

Іншы расказчык гаварыў Віктару Рудчыку: „У Танкелях гітлераўцы расстралялі нейкіх 25 або 27 тысяч савецкіх ваеннапалонных. Зараз жа пасля вайны прыязджалі сюды аж з Масквы нейкія лекары і праводзілі раскопкі гэтых магіл. Я ведаю, бо сам дапамагаў ім у гэтым".

Я крышку скарацію прыведзеныя Віктарам Рудчыкам расказы ягоных субяседнікаў, бо тая бяседа адбывалася ў застоллі і мужчыны, як то часта ў такіх абставінах бывае, прыкрасілі свае аповеды дадаткамі, якія або самі прыдумалі, або прыдумаў іх хто іншы. Гэтаксама здаецца мне прыдуманым і лік ахвяр, што спачылі ў брацкай магіле каля Танкеляў.

У Танкелях гітлераўцы расстрэльвалі захопленых у палон у пачатку ваенных дзеянняў летам 1941 года савецкіх салдат. Найверагодней былі гэта байцы з разбітых у першай фазе вайны навакольных савецкіх фарміраванняў, схопленыя наступаючымі немцамі. І, верагодна, не было іх многа, бо ж нават салдаты, што выжылі ў надбужных дотах, не ўсе трапілі ў палон; сам Віктар Рудчык жа спатыкаўся з некаторымі. Да таго ж, у наваколлі Драгічына не было якіхсьці буйных савецкіх часцей парадку прынамсі корпуса, бо ж менавіта такое аператыўнае згуртаванне налічвае больш-менш тыя 25 тысяч...

Некраполія каля Танкеляў мае размер больш-менш дваццаць на пяцьдзесят метраў, значыць яе плошча мае каля тысячы квадратных метраў. Калі б там было расстраляна названыя 25 тысяч чалавек, то ж пад кожным квадратным метрам павінна іх быць па дваццаць пяць. Якой глыбіні катлаван трэба было б выкапаць, каб пад адзін квадратны метр лягло дваццаць пяць асоб?.. Размоўцы Віктара Рудчыка неяк не выказваліся наконт яго размераў, а напэўна не забылі б пра іх, калі б катлаван умясціў столькі народу; для параўнання: парытэтная колькасць асоб пражывае зараз у нашым Бельску — няцэлыя дваццаць восем тысяч...

Некраполія каля Танкеляў, нягледзячы на тое, што там, верагодна, пахавана значна менш ахвяр, чым афіцыйна падаецца, пакідае ўсё ж такі надта сумнае ўражанне, бо адзінай інфармацыяй пра тыя ахвяры з'яўляецца толькі той прыдуманы іх лік. Няма там ніводненькага прозвішча, усе пакойнікі, колькі б іх там не было — ананімныя. Пра месца тамашняга іх спачыну не даведаліся іхнія сем'і... За абеліскам, у вяршыне якога па два дзяржаўныя гербы — чырвоныя зоркі і белыя арлы, нехта паставіў кволенькі драўляны візантыйскі крыжык, такі, якія нашы індывідуальныя паломнікі носяць на Спаса на Грабарку.


Крыж між Сіневічамі і Садамі

Другая сусветная вайна прынесла новы від баявых дзеянняў, абумоўлены з'яўленнем новай, мабільнай баявой тэхнікі — бліцкрыг, маланкавую вайну. Значна скараціўся час ваенных аперацый і не хапала яго на ўлік ахвяр. Не магло быць таго ўліку з савецкага боку, бо ж не было гэта магчымым ва ўмовах павальнага і хаатычнага адступлення. Не турбаваліся гэтым і наступаючыя гітлераўцы, бо ж у сілу іхняй ідэалогіі лічыўся толькі *Herrenvolk*, а ніжэйшым народам прыматаў было наканавана знішчэнне — навошта ж тады іх нейкі, да таго ж у цэйтноце, улік?..

У лютым 1934 года Германія ратыфікавала Жэнеўскую канвенцыю 1929 года, пра ахову ваеннапалонных. Савецкі Саюз гэтай канвенцыі не прыняў, таму, відаць, нацысты палічылі, што канвенцыя не датычыць узятых у палон савецкіх байцоў, што яны не падлягаюць прадугледжанай канвенцыяй ахове... Дарэчы, абодвум таталітарным рэжымам чужыя былі гуманныя пачуцці.

Паводле легенды, да сярэднявечнага азіяцкага ўладара-заваёўніка Тамерлана звярнуліся жанчыны Багдада і Дамаска са скаргай на сваіх распусных мужоў. Справядлівы на свой лад Тамерлан загадаў тады дзвюхстам тысячам сваіх салдат, каб кожны з іх прынёс па адсечанай галаве распуснага мужа. Пасля выканання гэтага загаду былі ўзведзены сем пірамід з самых адсечаных галоў. Можна з невялікім спрашчэннем прыняць, што ў кожнай з тых пірамід было па столькі галоў, колькі паводле мемарыяльных надпісаў закапана каля Танкеляў.

Сталіцай Тамерлана быў горад Самарканд, які ў 1868 годзе занялі царскія войскі. Неўзабаве расійскі губернатар Туркестана запрасіў туды выдатнага расійскага жывапісца Васіля Верашчагіна. Пазнаёміўшыся з жорсткасцю тамашніх заваёўных дзеянняў, мастак напісаў кранальную карціну „Апафеоз вайны", дзе паказана вялікая піраміда з чалавечых чарапоў. На яе раме артыст напісаў: „Посвящается всем великим завоевателям — прошедшим, настоящим и будущим".

І каля Танкеляў маецца таксама падобная піраміда, толькі яна прыкрыта зямелькай. Яна амаль нябачная ў даслоўным і абстрактным сэнсе. Навакольныя людзі жывуць сваім уласным жыццём, яны, мабыць, і не заглядаюць за ажурную цэментную агароджу. І можна было б заключыць, што за такое жыццё сваім уласным жыццём і змагаліся тыя тысячы байцоў. Адно толькі тое змаганне было цалкам безабароннае, не бароненае нават гуманнымі канвенцыямі. Якая была віна гэтых людзей, якім жыццё было абарвана менавіта ў Танкелях? Іхнім бацькам, у вялікім спрашчэнні — калгаснікам, не далі прыстойна жыць бальшавіцкія ўлады; нацысцкія ўлады не далі ім зусім жыць...

У брацкай магіле каля Танкеляў ляжаць астанкі тысяч ананімных людзей. Ананімных, як жывінкі ці раслінкі, як ананімная аграмадная прырода. На іх агульную магілу вельмі-вельмі рэдка заглядаюць вонкавыя асобы, каб паставіць кветачку ці лампадку. Пра іх клапоціцца сама прырода. Веснавыя птушкі выспеўваюць ім рэфлексійныя элегіі, а яблыня каля развалін найбліжэйшага дота, што на задворках недалёкай Вулькі-Замкавай, ушаноўвае памяць далёкіх прышэльцаў тысячамі сваіх майскіх кветак: кожнай ананімнай душаньцы па ананімнай кветачцы...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# У пошуках шчасця

Туга па мінулым штораз мацней перасякае сучаснасць. Знаёмства з жыццёвымі цэннасцямі нашых продкаў, іх ладам жыцця, традыцыямі многім стала не толькі патрэбай сэрца, але, мабыць, модным спосабам правядзення вольнага часу. Дзе шукаць прычын такой з'явы? Ці не ў эканамічным крызісе, які спалучае між- і пасляваенную бяду з сённяшняй? Апрача грошай сучасным не хапае жыццёвай радасці і добразычлівасці, характэрнай для вобразу іх дзядоў. Як кажуць найстарэйшыя жыхары нашых вёсак, калісь жылося бедна, але весела. У пошуках шчасця, скрытага ў слядах мінулых гадоў, сабраліся, між іншым, сімпатыкі беластоцкага царкоўнага Брацтва трох іерархаў. У сонечны чэрвеньскі дзень Божага Цела адправіліся яны ў Радунін, што на Гарадоччыне. Запрасіў іх туды вядомы ў наваколлі фанат смачнага, хатняга хлеба Уладзімір Мельніцкі. Ціхая, пушчанская вёска вабіць прыгожасцю навакольнай прыроды і архітэктуры. Спадар Мельніцкі даражыць гэтымі скарбамі. Жыве ён у цудоўнай, драўлянай хатцы з маленькімі аконцамі, аздобленымі выявамі белых птушак — сімваламі любові. Побач з ім заўсёды каханая жонка, грамадка прыгожых дзяцей і госці.

Спадар Уладзімір, патомак праваслаўных валынян, большасць свайго жыцця правёў у каталіцкім Эльблангу. Яго марай, унутранай патрэбай было пасяліцца далёка ад горада, сярод сваіх. На Беласточчыне збыліся амаль усе яго мары. Апрача гэтага сям'я спадара Уладзіміра мела сувязі з Супрасльскім манастыром, які аддзяляе ад Радуніна пару кіламетраў дарогі. Аднойчы наведаў яго нямецкі сябра, які паспеў пабываць амаль ва ўсім свеце. Чалавек спазнаў тут смак сапраўднай, пазітыўнай экзотыкі, параўнальнай з ягонай вандроўкай у далёкую Японію. Адно з дасягненняў спадара Мельніцкага — паспяховы ўваход у мясцовы сацыяльны круг. Гэта паўплывала таксама на адкрыццё дзвярэй радунінскай хаты амаль кожнаму прахожаму. Своіх гасцей прымае ён гарбатай з сапраўднага тульскага самавара і хатнім, жытнім хлебам, намазаным часночным і шчаўевым маслам. З ахвотай з'язджаюць сюды і дарослыя, і дзеці з амаль цэлага ваяводства.

На сваім панадворку спадар Мельніцкі пабудаваў невялікую часоўню. Менавіта з малітвы ў яе сценах пачаўся візіт беластоцкіх братчыкаў. Ім таксама былі падрыхтаваны практычныя заняткі па выпечцы хлеба, якія адбыліся ў вялікім гумне на другім баку вясковай вуліцы. Герой артыкула згадзіўся распавесці пра пачатак сустрэчы з хлебам — асноўнай часткай радунінскай эпохі ягонага жыцця.





— Аднойчы я апынуўся ў гасцях у шчэцінскай кватэры маёй сяброўкі Алі Май. Яна пачаставала мяне хлебам. Ніколі раней я не еў так смачнага хлеба. Сяброўка ад году займалася выпечкай, карыстаўшыся заквaскай прывезенай з Падляшша. З гэтай закваскай я вярнуўся дахаты. Перадаў яе таксама знаёмым у Нямеччыну, а гэтыя перадалі далей, між іншым, у Францыю, Швейцарыю і Нарвегію.

Выпечка хлеба з беластоцкімі братчыкамі аказалася не столькі навукай, колькі абменам вопытам. Сярод прысутных былі, між іншым, жанчыны, якія ў маладасці займаліся выпечкай штодзень. Іх замужняе гарадское жыццё не спрыяла прадаўжэнню гэтага спрадвечнага занятку. Наймалодшыя ўдзельнікі сустрэчы, у асноўным мужчыны, не пабаяліся змачыць рукі ў сырым зачыне. Ім вельмі хацелася навучыцца хлебнаму майстэрству і займацца ім у сваіх сем'ях. У час пячэння вялася таксама дыскусія над уплывам пазітыўнай атмасферы, стану душы выпякаючых на якасць выпечкі. Між іншым з мэтай стварэння асаблівага настрою запрасілі туды крынскую «Зараніцу». Хлебнае цеста выраблялася пры царкоўных спевах у выкананні запрошанага дуэта. Падрастала яно пры старых народных песнях з наваколля, спяваць якія далучылася большасць прысутных. Гэтае асаблівае падарожжа ў часе ўзрушыла беластачан да слёз. Большасці з іх выконваныя песні, як і сам працэс выпечкі хлеба асацыяваліся з адлеглым вясковым дзяцінствам ці выхаднымі ў пакойнай бабулі. Падросшая хлебная рошчына была перанесена ўдзельнікамі сустрэчы ў хату гаспадара. Там чакала іх цёплая хлебная печка і ветлівая гаспадыня са словамі «Госць у дом, Бог у дом».

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН




# http://belmova.ru

Кажуць, што кожны год у свеце знікае некалькі дзесяткаў моў. Гэта значыць, што на іх не толькі перастаюць размаўляць, але і забываюць казкі, паданні, песні і вершы. Знікненне мовы ў нечым падобнае на смерць чалавека — у небыццё сыходзіць светапогляд, жыццёвы досвед, характар і стыль павodзін. Колькі моў знікла за ўсю гісторыю, пэўна, не скажа ніхто. І ўсё часцей прыходзіш да высновы, што не надта зайздросны лёс чакае беларускую мову.

Праўда, на сённяшні момант варта прызнаць, што для беларускай мовы пакуль яшчэ застаюцца шанцы на выжыванне сярод моцных моў суседніх народаў — у першую чаргу побач з рускай і польскай. Існаванне гэтых шанцаў абумоўлівае, у тым ліку, стварэнне на беларускай мове твораў мастацтва, да якіх належаць і вершы. Зразумела, далёка не кожны верш можна назваць творам мастацтва, але нават проста вершаваныя радкі на беларускай мове паказваюць, што яна пакуль не знікла не толькі для слынных паэтаў, але і для паспалітага люду.

Адным з прыкладаў таго, што беларуская мова пакуль застаецца ў душы народа, можна назваць сайт „Вершы пра беларускую мову", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belmova.ru**. Пэўна, гэта адзіны сайт, дзе сабраны вершы пра мову ад разнастайных — вядомых і не надта вядомых аўтараў.

Галоўная старонка сайта выглядае даволі проста, але разам з тым прывабліва, асабліва тым, што ўпрыгожвае яе выява бел-чырвона-белага сцяга. Створаны на платформе Wordpress партал пазнаецца адразу па стылю загалоўка і выйсцяў да рубрык. Усе выйсці месцяцца ўверсе і з боку старонкі, у даным выпадку — справа. Тут жа ніжэй ідзе верш Алеся Ставера і своеасаблівая „экранізацыя" твора — на відэа знятая дзяўчынка, якая чытае гэты верш са сцэны. „Дык чаруй жа людзей паміж моваў другіх/ І гучы вечна, ярка і нова/ Мова продкаў маіх і нашчадкаў маіх — / Беларуская родная мова!" — аптымістычна заклікаюць дзяўчынка і Ставер. Шмат у якіх іншых вершах, змешчаных на сайце, такога аптымізму наконт нашай мовы значна менш.

Ніжэй за відэа з дзяўчынкай размешчаны вершы, якія адабраны ўладальнікамі сайта як лепшыя. Іх усяго адзінаццаць. Да чаго зводзіліся крытэрыі адбору — нідзе не пазначаецца.

Імёны і прозвішчы паэтаў, чые вершы месцяцца на сайце, знаходзяцца з правага боку выяўлення. Іх некалькі дзесяткаў. Праўда, адначасова гэты пералік дублюецца старонкай „Аўтары", выйсце да якой — пад загалоўкам галоўнай старонкі.

Адметнасцю будовы сайта з'яўляецца рубрыка „Меткі". У ёй вершы пра беларускую мову сістэматызаваны адпаведна тым ці іншым тэмам. „Абарона мовы", „Вершы для дзяцей", „Вёска", „Народ", „Прыгажосць мовы", „Словы" і „Францыск Скарына" — пад гэтымі падрубрыкамі месцяцца па некалькі вершаў. На жаль, стваральнікі сайта не парупіліся пра тое, каб пазначыць аўтарскую прыналежнасць змешчаных там вершаваных радкоў. Напрыклад такіх, якія як у вершы „Як ні страшна..." ў падрубрыцы „Народ" трапна перадаюць боль за знікненне беларускай мовы: „Непатрэбная мова. Як горка/ Чуць і бачыць яе скон павольны./ Смерць магчыма спыніць яшчэ. Толькі/ Ці на гэтае хопіць нам волі?".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Закаханы ў беларускую зямлю і песню

# 90 гадоў з дня смерці Міхала Федароўскага



10 чэрвеня споўнілася 90 гадоў з дня смерці Міхала Федароўскага, выдатнага фальклорыста і этнографа, які вельмі шмат зрабіў для вывучэння беларускай культурнай спадчыны. Федароўскі нарадзіўся 1 верасня 1853 г. (сёлета прыпадаюць яшчэ яго 160-я каляндарныя ўгодкі) у Варшаве. Ён быў якраз з тых асоб, каго могуць шанаваць прадстаўнікі некалькіх народаў.

З малых гадоў Федароўскі выхоўваўся без бацькі, які як удзельнік паўстання 1863 г. быў змушаны жыць у эміграцыі. Юнацкія гады Міхал правёў у Польшчы, дзе пачаў цікавіцца фальклорам і актыўна збіраць матэрыялы. Пад канец 1877 г. пераехаў у ваколіцы Пружан, у маёнтак Ліноўка Швыкоўскага, жонка якога была даўняй сяброўкай маці Федароўскага. У Беларусі ён пражыве ажно 27 гадоў.

У верасні-кастрычніку 1878 г. ён скончыў апісанне вясельнага абраду ў Ваўкавыскім павеце. Гэта цэлая манаграфія на 144 старонках рукапісу, якая паказала вяселле беларусаў ад пачатку да канца. Апісанне ілюструюць 208 песень. Федароўскі найперш вывучыў мову народа, даследаваў асаблівасці рэгіянальных гутарак, сам размаўляў па-беларуску і крытыкаваў сваіх калег Дзмітрыева і Шэйна за няўвагу да мовы беларусаў. Ён збіраў прадметы матэрыяльнай культуры (купляў у сялян па вёсках, на кірмашах, даставаў праз знаёмых) і рабіў запісы твораў духоўнай культуры.

У 1884-1894 гг. Федароўскі арандаваў фальварак Косін у Ваўкавыскім павеце. Этнограф запісваў усё: паданні і казкі, вераванні і забабоны, жарты і показкі, прыказкі і загадкі... Галоўнай любоўю Федароўскага можна назваць песню. За першае дзесяцігоддзе працы на Беларусі ён запісаў некалькі тысяч тэкстаў народных песень. Увесь гэты час шукаў у памочнікі музыку, каб збіраць і мелодыі.

У 1891 г. рукапіс першага тома матэрыялаў быў гатовы. Аўтар назваў яго „Люд беларускі на Русі Літоўскай. Матэрыялы да славянскай этнаграфіі, сабраныя ў 1877-1891 гг. Міхалам Федароўскім. Т. І: Вера, вераванні і забабоны люду ваколіц Ваўкавыска, Слоніма, Ліды і Саколкі" (выйшаў ён у 1897 г.). Сюды ўвайшло 2835 запісаў пра вераванні беларусаў. Трапіў сюды таксама спіс 217 лекавых раслін з мясцовымі назвамі і назвамі на лаціне.

Другі том выйшаў у 1902 г. У ім надрукавана 410 казак, паданні пра мясцовасці. Трэці том з'явіўся ў 1903 г. У яго ўвайшлі гістарычныя і мясцовыя паданні, апавяданні з паўсядзённага жыцця і гумарыстычныя. Федароўскі дадаў сюды і матэрыялы са Слуцкага і Навагрудскага паветаў. Чацвёрты том „Люду беларускага" выйшаў у 1935 г., ужо пасля смерці Федароўскага. Змешчаны ў ім тосты і віншаванні, каламбуры і клянічы, загадкі і мянушкі, просьбы і жарцікі, прозвішчы і імёны сялян з розных паветаў. Потым было надрукавана яшчэ некалькі тамоў.

Асабістае жыццё Федароўскага склалася трагічна: неразуменне жонкі, збядненне, смерць ад хвароб ажно траіх дзяцей. Калі ў 1904 г. паводка заліла палі і сенажаці яго маёнтка Падоль, з-за страт этнограф пакінуў Беларусь, рэшту жыцця правёў у Варшаве. Пахаваны на Павонзкаўскіх могілках.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

5 ☞працяг

# Мяжа — пагранічча — апора

му што розныя мовы там не функцыянуюць нармальна, і ніхто на вуліцы, так як гэта ёсць у Беластоку, не робіць з гэтага праблемы.

Ён заахвочваў кіраўніцтва вучэльні арганізаваць моўныя курсы ў Беластоку, асабліва беларускай мовы, якімі маглі б пакарыстацца ўсе студэнты гэтага ўніверсітэта:

— Я цаню ідэю стварэння трансгранічнай сеткі ўніверсітэтаў, але колькі нашых студэнтаў гаворыць па-беларуску, па-ўкраінску і па-літоўску? Чаму ў Беластоку не ўзнік, абяцаны Ежы Гедройцу беластоцкай прафесурай, Беларускі інстытут у мясцовым універсітэце?

Спасылаючыся на ідэю стварэння сеткі ўніверсітэтаў і ранейшае прыгранічнае супрацоўніцтва ўніверсітэтаў Беластока і Гродна, выказаў здзіўленне недахопам пратэсту ўлад Беластоцкага ўніверсітэта ў сувязі з выдварэннем з Гродзенскага ўніверсітэта Вячаслава Шведа, Андрэя Чарнякевіча і Ігара Кузьмініча і пагрозы пазбаўлення працы іншых мясцовых даследчыкаў у сувязі з публікацыяй «Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада», спасылаючайся на навуковы этас узаемасалідарнасці і свабоды думкі.

Здзіўлены дэкан Внароўскі заявіў: — Мы нічога не ведалі.

За два дні дэлегаты паднялі шэраг пытанняў, звязаных з усходняй мяжой Еўропы.

— У Польшчы наступаюць змены ва ўспрыманні ўсходніх ускраін — «усходніх крэсаў». Тыя за мяжой перастаюць імі быць дзеля тых, якія знаходзяцца на ўсходняй тэрыторыі нашай краіны з усёй сваёй спадчынай, — перакананы Шыман Чупрынскі з Беластоцкага ўніверсітэта.

Анна Ідзёр з Беластоцкага ўніверсітэта абмяркоўвала імідж Беларусі і беларусаў у беластоцкай прэсе ў 2007-2012 гг. Яна прыйшла да высновы:

— Імідж Беларусі і беларусаў у значнай ступені асноўваецца на паведамленнях у сродках масавай інфармацыі. У цяперашні час імідж беларуса звязаны з гандлёвым турызмам і беларусы ўсё часцей успрымаюцца як пажаданыя госці, якія падтрымліваюць наш рынак. Тым не менш, сярэдняму грамадзяніну (пасля аналізу беластоцкай прэсы за гэты перыяд — М. Х.), беларус па-ранейшаму асацыюецца з таннымі цыгарэтамі і на гэтым веды канчаюцца.

Некалькі выступленняў было прысвечаных наступствам пагаднення аб малым памежным руху (МПР), не ўступіўшым у сілу па віне беларускага боку. Такое пагадненне з Калінінградскай вобласцю абавязвае ад ліпеня 2012 года, а турысты, што пакарысталіся ім да снежня 2012 года, пакінулі ў Польшчы 21 млн. злотых.

— Еўрасаюзнае рэгуляванне аб МПР паказвае, што ЕС не закрываецца на пагранічны, — пераконваў беластоцкі малады вучоны Радаслаў Камінскі.

— Перш за ўсё, гледзячы на вопыт у малым памежным руху з Украінай і Калінінградскай вобласцю, найбольшыя выгады ў сувязі з яго ўвядзеннем вынікаюць з гандлю ў гэтай зоне і маюць іх суб'екты, што знаходзяцца там, у асноўным крамы і турыстычная індустрыя, — даказвала ў сваю чаргу Анна Томчык.

З вялікай цікавасцю прынята было выступленне Міхала Дамброўскага, цяпер дактаранта Вышэйшай школы сацыяльнай псіхалогіі ў Варшаве, які на працягу пяці гадоў працаваў на розных афіцэрскіх пасадах Мытнай службы пры пагранпераходзе ў Кузніцы-Беластоцкай. Ён расказваў пра «сацыяльныя светы мяжы і тыпы людзей парганічча». У інтэрв'ю «Ніве» пасля прэзентацыі сваёй доктарскай дысертацыі пералічыў групы, звязаныя з польска-беларускай мяжой:

— Я даследую ўсю прастору пагранперахода. Не толькі людзей, якія перасякаюць мяжу, але і прафесійна там працуюць, якіх я называю «кантралёрамі». Другая група — кіроўцы грузавікоў, якія таксама прафесійна, легальна звязаны з мяжой. Я вылучыў групы людзей, якія займаюцца трансгранічным гандлем, трансгранічнай закупачнай палітыкай. Гэта іерархічная сістэма і не зусім раздымная. Такія рысы, як адукацыя, узрост, месцажыхарства не вырашаюць аб прыналежнасці да групы. Калі гаворка аб грамадзянстве, больш за 90 адсоткаў маіх паддоследных гэта грамадзяне Беларусі, хоць іх нацыянальнасць цяжка вызначыць. Ёсць таксама людзі, якіх тоеснасць не ўстаноўлена, таму што пражыванне ў Беларусі і пашпарт аб гэтым не вырашаюць. Існуюць тры ўзаемазвязаныя элементы гэтых адметных груп: патэнцыял, ціск і рацыяналізацыя. Ціск звязаны з жаданнем палепшыць сваё эканамічнае становішча. Патэнцыялам з'яўляецца магчымасць таннага і хуткага атрымання дакумента, выкарыстоўваючы акцыі: віза на квіткі ў оперу, набыццё Карты паляка ці візы тыпу «D» для студэнтаў. У маім даследаванні я таксама заняўся мовай. На мяжы ствараецца новая на самой справе, трэцяя мова, якая вынікае з жадання стварыць самімі людзьмі мост зносін. Ствараецца новы тып культуры, мабыць, штучнай, але ўсё ж існуючай.

Сярод груп Міхал Дамброўскі адрозніў, як першую базавую, «пачаткоўцаў». Гэтыя людзі — як сам вызначыў — тыя, хто чуў, што можна добра зарабляць на міжгранічным гандлю і хочуць паспрабаваць гэтага самі. Тып «індывідуальны», у сваю чаргу, гэта людзі, якія ў асабістых мэтах ствараюць працоўнае месца з перасячэння мяжы, трактуючы перавозку як зберажэнне. Больш спецыялізаваныя гэта «кааператыўшчыкі»: «Яны вядуць разведку на маршруце кантроляў, ведаюць, якая гадзіна лепшая для таго, каб лепш змяшацца з натоўпам. Яны гатовы ахвяраваць некалькі чалавек, якія правакуюць: пакажуць, што маюць больш цыгарэт, чым можна, а самі перакідваюць вялікія партыі тавару. Яны салідарна дзеляць прыбыткі і страты з няўдач. Інстытуцыяналізуюць сваю дзейнасць. Яны не прадаюць свой тавар танней паблізу мяжы, але значна даражэй у краінах Паўночнай Еўропы, Вялікабрытаніі і Нямеччыны.

Іншай групай з'яўляюцца «перавозчыкі» — людзі наёмныя, якія выкарыстоўваюцца арганізатарамі перавозкі толькі для перасячэння мяжы: «Большасць з іх нават не ведае пра маштабы таго, што яны робяць». Іншая група гэта «назіральнікі»: «Гэта тыя, што знаходзяць людзей для перавозу. Заадно палякі, як і беларусы».

Пры нагодзе размовы з «Нівай» вучоны-мытар прызнаўся, што ён з'яўляецца аматарам творчасці Віктара Сазонава і ягоных «Запісак кантрабандыста».

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Тэрмінова шукаецца лекар

Ад двух гадоў жыхары Чаромхаўскай гміны хадайнічаюць перад войтам, каб у Гмінным асяродку здароўя працаваў другі лекар. Справа неаднойчы ставілася на сесіі Рады гміны. Безвынікова. Аргументацыя адна і тая ж: няма ахвотнага лекара на працу ў Чаромсе. Чым правініваціліся чарамшане, што іх лёс так крыўдзіць? Як тлумачыць войт Юры Шыкула, гміна гарантуе службовую кватэру лекару ў жылым корпусе ў цэнтры пасёлка. На сайце Гміннай управы 5 чэрвеня з'явілася аб'ява: «Тэрмінова прымем на працу лекара пачатковай медычнай апекі. Дырэкцыя Самастойнай публічнай установы медычнай апекі ў Гайнаўцы шукае лекара (ахвотна бачыцца лекарскае сужонства), па спецыялізацыі сямейная медыцына або лекара ўнутраных хвароб на працу ў Гмінным асяродку здароўя...».

Ці гэтым разам хтосьці адклікнецца на аб'яву — цяжка сказаць. На маю думку, аб'ява нічога не вырашыць, калі кіраўніцтва гайнаўскага ЗОЗу не праявіць добрай волі і ад сябе не рэкамендуе медычнага спецыяліста. А за гэтую дабрадзейнасць жыхары Чаромхаўскай гміны былі б вельмі ўдзячны дырэктару ЗОЗ.

**Уладзімір СІДАРУК**

## 16.06 — 22.06

**(22.03. — 20.04.)** У кар'еры спакойна і санліва. Штодзённыя абавязкі і заданні таксама не выклічуць твайго асаблівага энтузіязму. Ды не перамайся, дасягнеш таго што трэба, пры дапамозе іншых. Глядзі на ўсё, што кладзеш на талерцы. Вельмі пільнуйся 18-22.06., каб не абмінуць важнай дэталі, якая можа аказацца ключавой.

**(21.04. — 21.05.)** Пачнеш лепш адчуваць сябе. 17-21.06. пазітыўныя інфармацыі і ўдачныя здарэнні. 19.06. можаш ісці на важную размову. 19-23.06. аптымізм і новыя задумы. Старайся не браць пазык, асабліва на некарысных для цябе ўмовах. Адносна канікул — прапанова мараў упадзе табе проста з неба!

**(22.05. — 22.06.)** 19-23.06. прадбачваецца рамантычнае каханне, знакаміты настрой. Планаваны выезд вельмі ўдалы, ды абмінай курорты. Зважай на кантузіі і ўдары, асцярожна абыходзься з агнём і гарачымі прадметамі. Могуць сустрэць цябе плёткі і абман. Найбольшыя матэрыяльныя ўдачы ў Блізнят народжаных 8-20.06.

**(23.06. — 23.07.)** Краса і прыемнасці. Толькі з дыетамі ненайлепш, будзеш рады насычацца. Твой найлепшы час — аж да 27.06. — будзеш зоркай! Правільнае рашэнне важнай справы можа табе прысніцца. У гэты час не будуй, не рамантуй, не рабі прадметаў, не тчы, не шый і не вяжы на прутках. У сераду не папсуй гадзінніка.

**(24.07. — 23.08.)** Варта цяпер выбрацца ў падарожжа. Пазбягай вялікай фізічнай напругі. 16-17.06. зробіш добрыя пакупкі. Грошы набліжаюцца да цябе. Зрабі талісман, які іх прыцягне: пяць белых ракавінак намаж алеем бергамоты або базіліка, завяжы ў зялёны мяшочак і павесь там, дзе займаешся справамі. З 20.06. (да 24.06.) „гуморы” і „фохі”, атмасфера спрыяе спрэчкам, пагражае табе таксама стома.

**(24.08. — 23.09.)** 19-23.06. чакае цябе фантастычнае падарожжа. Будзь вельмі асцярожны ў адносінах з калегамі на працы — ад малых непаразуменняў можа дайсці да большых канфліктаў. Паявяцца новыя задумы, якія падмацуюць тваю кар'еру. Набярэшся адвагі да рызыканцкіх прыёмаў. Прыхільнасць знаёмых паможа ажыццявіць твае планы. У прафесійнай сферы паявяцца новыя перспектывы развою. Абавязкова зайграй у латарэю!

**(24.09. — 23.10.)** 19-23.06.: добрыя весткі; будзь гатовы да дзеяння — спрыяе табе шчасце! Але можа пастарацца зашкодзіць табе асоба, якую да гэтай пары ты лічыў спрыяючай і лаяльнай; будзь халаднакроўным. Можаш разлічваць на дасягненне прыемнай стабільнасці, хаця без хуткіх і вялікіх прыбыткаў.

**(24.10. — 22.11.)** Ажыўленне, хуткая рэгенерацыя, мноства задум і творчых рашэнняў; адным трапным рашэннем можаш шмат змяніць. З 22.06. (да 24.06.) не ідзі на хірургічныя аперацыі. У сераду падыдзі да доктара. 15-19.06. шанцы на павышэнне ці большую заплату, а калі працуеш на сваім — вялікі прыбытак. Але не выдавай гэтых грошай, а лепш заінвестуй, бо зоркі прадбачваюць сапраўды вялікую касу.

**(23.11. — 22.12.)** 17-21.06. будзеш важны і цэнены, хаця да 21.06. яшчэ ў ненайлепшай форме. Ды прыйдуць зусім неспадзяваныя грошы — ці то забытая ўзнагарода, ці вяртанне даўгу, на які ты ўжо не разлічваў. Не будзеш наракаць на недахоп наяўных! Маеш шанц наладзіць новыя шматабяцальныя знаёмствы (да 26.06). У панядзелак не падымай з зямлі жалезных прадметаў, асабліва булавак і манет.

**(23.12. — 20.01.)** Паявяцца новыя магчымасці, але шыкуй сабе на ўсякі выпадак дарогу адступлення. 16-17.06. напруга, цяжкасці, нават небяспека для жыцця; будзь асцярожны асабліва за рулём. 20-24.06., калі будзеш даручаць нейкую працу, усяго мусіш дапільнаваць; могуць на тваёй дарозе паявіцца непрыхільныя людзі.

**(21.01. — 19.02.)** 18-22.06. плануй публічныя выступленні, падарожжы. Маеш шанц зазяць нейкім талентам. 17-21.06. прыемны сюрпрыз будзеш мець ад дзяцей. Больш часу аддасі на прыемнасці чым абавязкі. Не абяцай больш чым можаш зрабіць. Пільнуй кашалька і не выцягай яго не падумаўшы, бо прапусціш мора касы на невядома што.

**(20.02. — 21.03.)** Слухай парад найбліжэйшых. Памогуць! Маеш шанц здабыць апекуноў тваіх спраў. У прафесійнай сферы могуць паявіцца новыя перспектывы развою. Даўгоў маеш шанц пазбыцца 15-19.06., але плануй пакупкі, кіруючыся станам рахунку, а не жаданнямі. Аж да 27.06. час спрыяе закаханню!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. моцны працяглы крык мядзведзя, буры, самалёта., 2. сігнальны паплавок на вадзе, 3. сплеценыя ў кружок кветкі для аздаблення дзявочай галавы, 4. мацуе аглоблі да хамута, 5. сярэднеазіяцкая „хата”, 6. пасля пятніцы, 7. „кітайскае” збожжа, 8. лес з альшынай, 9. машына для ачысткі збожжа ад мякіны, 10. застолле з пачастункам, 11. „бяссонная” інданезійская выспа, 12. салодкая студзяністая страва на аснове жэлаціну, 13. цякучае рэчыва, 14. біблейскае апавяданне з павучальным вывадам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — сербская прымаўка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 19 нумара**

Гімн, кава, куб, мыза, папараць, печ, пяць, шоры.

Рашэнне: **Каб паправіць памяць пазыч некаму грошы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Змагаліся за кубак «НІВЫ»

**VI Міжгімназічныя гульні дзяўчат па валейболе за кубак Тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» ўдала прайшлі 5 чэрвеня ў Комплексе школ у Кляшчэлях, які ўжо трэці раз быў арганізатарам гэтых спаборніцтваў. Прынялі ўдзел у іх удзел вучаніцы пяці школ, у якіх вядзецца навучанне беларускай мовы. Першыя тры спаборніцтвы адбываліся ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім, які і быў ініцыятарам беларускага спартыўнага турніру.**



Удзельнікі VI Міжгімназічных гульняў дзяўчат па валейболе за кубак «Нівы»

— Мы з нашым настаўнікам фізкультуры Юры Чыквіным падумалі, што добра было б наладзіць беларускае спартыўнае мерапрыемства. Дзеля гэтага звярнуліся мы да галоўнага рэдактара «Нівы» Яўгена Вапы з просьбай узяць патранат над гульнямі па валейболе і мы рады, што змагаемся за кубак тыднёвіка «Ніва». У бельскай «тройцы» мы ставім націск на гандбол і дабіваемся поспехаў у гэтым відзе спорту. Ведаем, што ў школах, дзе вядуцца заняткі па беларускай мове, няма вялікіх спартзалаў, каб трэніравацца па гандболе. Таму мы рашыліся на супольныя гульні па валейболе, якім займаюцца вучні практычна ва ўсіх школах, — сказаў Уладзімір Васілюк, настаўнік фізкультуры ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім, які прыехаў у Кляшчэлі са сваімі бельгімназісткамі.

— Мы гуляем у валейбол толькі на занятках фізкультуры. Свае тэхнічныя недахопы стараемся кампенсаваць ангажавасцю ў час матчаў. Пасля змаганняў адпачываем, гледзячы іншыя матчы. Мы рады сяброўскай атмасферы, — сказалі бельскія белгімназісткі Аляксандра Белаказовіч, Патрыцыя Асташэўская і Марта Ваўранюк. Іх трэнер Уладзімір Васілюк дадаў, што абавязкам іх школы было выступіць на беларускім турніры.




Заслужаным пераможцам турніру стала валейбольная каманда Комплексу школ у Кляшчэлях (з настаўнікам Эдвардам Тэрэбунам)

— Мы ходзім на заняткі роднай мовы і прыехалі на беларускі турнір змагацца за перамогу, хаця і мала трэніраваліся перад сённяшнім спаборніцтвам, — гаварылі Дар'я Дажынка і Юліта Тымашэвіч з гімназіі № 7 у Беластоку.

— У нашай школе няма асобнай валейбольнай каманды, таму прыехалі вучні, якія ўмеюць гуляць у валейбол і цікавіць іх беларускае спаборніцтва. Супольных трэніровак было мала. Сёлета нашы дзяўчаты прыехалі змагацца за перамогу. Я не спецыяліст па валейболе, але гледзячы на гульні вучняў, я навучылася даваць ім нейкія парады, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў гімназіі № 7 Альжбета Рудкоўская, якая прыехала ў Кляшчэлі разам з настаўніцай расійскай мовы ў гэтай гімназіі і беларускай мовы ў Агульнаадукацыйным ліцэі № 3 у Беластоку Іааннай Васілюк. — Мы прымаем удзел у валейбольных гульнях ад пачатку. Нашы дзяўчаты сёлета не маглі ўжо дачакацца спаборніцтваў і толькі дапытваліся ў мяне калі яны адбудуцца.

Ужо ад пачатку гульняў сваёй добрай ігрой і вялікімі ўмеласцямі па валейболе адметна вылучаліся гімназісткі кляшчэлеўскай школы, якія займаюцца пад наглядам настаўніка фізкультуры Эдварда Тэрэбуна, які ўжо трэці раз быў галоўным арганізатарам спаборніцтваў. Дзяўчаты з Кляшчэлеўскай гміны па чарзе заўважальна перамагалі ва ўсіх матчах і ў канцы спаборніцтваў усе іх удзельнікі ведалі, што пераможцам гульняў стане валейбольная каманда Комплексу школ у Кляшчэлях, так як было і ў час папярэдніх спаборніцтваў.



— Ужо завязалі мы размовы з іншымі дзяўчатамі і прыемна праводзім тут час. Так, як і ў мінулых гадах, змагаемся за перамогу, — сказалі Магдалена Мартыновіч, Магдалена Вершка і Эва Зіневіч з гімназіі ў Кляшчэлях, якія разам з сяброўкамі з каманды гуляюць у валейбол у час заняткаў фізкультуры і ад многіх гадоў прымаюць удзел у пазаўрочных занятках па валейболе і шматлікіх трэніроўках пад апекай настаўніка Эдварда Тэрэбуна, рэзультатам чаго была выдатная падрыхтоўка да спаборніцтваў. У выпадку дзяўчат з іншых чатырох каманд іх умеласці па валейболе былі параўнальнымі і апекуны валейбалістак былі згодны, што кожная з чатырох апошніх каманд мела рэальны шанц здабыць другое або трэцяе месца.

— У час сённяшніх спаборніцтваў *файная* атмасфера. Няма заўзятасці і непрыязных адносін паміж намі. Адчуваецца сяброўства і адначасна прага перамогі. Можам паглядзець ігру іншых, можна пазнаёміцца з дзяўчатамі з іншых каманд і паразмаўляць з імі, — гаварылі гайнаўскія белгімназісткі Мартына Малашэўская і Анета Смык. — Мы ў школе займаемся валейболам раз у тыдзень і гэтага мала, каб выйграваць з найлепшымі. Можа, калі пойдзем у белліцэй, будзем больш займацца і станем лепш іграць у валейбол.

— Мы прыехалі практычна з новай камандай, бо мінулагоднія гімназісткі, якія змагаліся тут у Кляшчэлях, зараз вучацца ўжо ў ліцэі. Дзяўчаты ахвотна прыехалі на турнір, а вопыт тут здабыты дапаможа нам змагацца ў іншых спаборніцтвах па валейболе, — заявіла трэнер гайнаўскіх белгімназістак Крысцінія Кісляк.

У час спартыўных змаганняў за гульнямі спартсменак наглядалі вучні і дарослыя кляшчэлеўскія балельшчыкі, якія перш за ўсё стымулявалі да лепшай ігры сваіх дзяўчат. Аднак горача яны апладзіравалі таксама ў час удалых выступаў каманд астатніх школ.

— Мы першы раз на такіх спаборніцтвах і пад вялікім уражаннем ад добрай арганізацыі і добрай атмасферы. Не шанцуе нам сёння, але не здаемся, — сказалі нараўчанскія гімназісткі Анна Бяляўская і Патрыцыя Бядрыцкая.

— Сённяшні турнір — гэта беларускае мерапрыемства, якое інтэгруе нашае асяроддзе. Паміж вучнямі завязваецца сяброўства, а мы, апекуны, можам таксама абмяняцца заўвагамі і вопытам, — заявіла настаўніца фізкультуры са школы ў Нараўцы Аліна Аўрук.

Бывала, што рэзультатам перамогі ў канкрэтных матчах была лепшая псіхалагічная матывіроўка і гэта мабілізавала да змагання нават у час першапачатковага пройгрышу. У выпадку іншых валейбалістак пройгрыш у пачатку спартыўнага сутыкнення адымаў сілы да далейшага змагання. Вельмі важным быў таксама вопыт змагання ў турнірах, а таксама адвага выступаць перад балельшчыкамі і пэўна дзяўчаты, якім горш атрымалася ў Кляшчэлях, выкарыстаюць кляшчэлеўскі вопыт у чарговых спаборніцтвах. Калі былі падведзены вынікі спаборніцтваў, аказалася, што другое месца занялі вучаніцы гімназіі № 7 у Беластоку, якія прайгралі толькі з камандай Кляшчэлеўскай гміны. На трэцім месцы апынуліся белгімназісткі з Бельска, чацвёртае месца занялі вучніцы Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, а на пятым месцы апынуліся гімназісткі Комплексу школ у Нараўцы. У мінулым навучальным годзе ў час беларускіх спартыўных гульняў па валейболе вучаніцы нараўчанскай школы занялі другое месца, а беластоцкія гімназісткі былі на чацвёртым месцы, што прадвяшчае таксама непрадбачальны вынік валейбольнага спаборніцтва ў наступным годзе. Самымі лепшымі валейбалісткамі ў паасобных камандах былі вылучаны Малгажата Яўдасюк з кляшчэляўскай каманды, Юліта Катоўская — з беластоцкай, Марта Ваўранюк — з бельскай, Юліта Рыбак — з гайнаўскай і Ізабэля Касакоўская з нараўчанскай гімназій.

— Мы рады што «Ніва» з'яўляецца спонсарам кубкаў, медалёў і статуй, якія мы сёння ўручым вучням, і што дырэктар нашай школы стаў спонсарам абедаў для ўдзельнікаў спаборніцтваў. У арганізаванні гульняў вельмі многа дапамагаюць нашыя валейбалісткі, якія дэкаравалі спартыўную залу, рабілі бутэрброды і падрыхтавалі пачастунак апекунам школьных каманд, — сказаў настаўнік фізкультуры ў Кляшчэлях Эдвард Тэрэбун, весці матчы якому дапамагала настаўніца фізкультуры ў кляшчэлеўскай школе Ілона Пукалевіч.

На жаль, у гэтым годзе ў дзень спаборніцтваў не было ў школе дырэктара кляшчэлеўскай школы Славаміра Трашчоткі, які раней заўсёды сардэчна вітаў і гасцінна прымаў удзельнікаў гульняў. У мінулым годзе кубкі і медалі ўручала бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, якая сёлета не змагла прыбыць і дэлегавала ў школу інспектара па асветных справах Іаанну Хмялеўскую, якая вітала сабраных у час адкрыцця мерапрыемства і віншавала пераможцаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960